PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 47 (2062) ГОД XL БЕЛАСТОК 19 ЛІСТАПАДА 1995 г. ЦАНА 50 грошаў (5000 ст. зл.)



*Паніхіда па загінуўшых фурманах.*

*Ганна Кандрацюк*

## Пілігрымка асірацелых

Трэцяя ўжо пілігрымка ў Пухалы-Старэ і Кліхы (гміна Бранск) закончылася высвячэннем крыжа на бельскіх вайсковых могілках. Паездку, як і дзве папярэднія, арганізаваў Камітэт памардаваных сем'яў — родныя 29 вазакоў, жыхароў падляшскіх вёсак Лазіцы, Арэшкава, Пасечнікі-Вялікія, Ягаднікі, Махнатэ, Збуч, Чыжы, Падрэчаны, Ракавічы, Крывая, Залешаны, якіх у канцы студзеня 1946 года памардаваў у лесе непадалёк вёскі Пухалы-Старэ атрад НЗВ (Narodowego Zjednoczenia Wojskowego).

Субота, 28 кастрычніка. Аўтобус запоўнены да апошняга месца.

— Папярэднім разам было нас больш, — кажа мой сусед, пажылы мужчына. Пераважаюць пенсіянеркі, усе на выгляд вясковыя кабеты. Рукі іх запоўнены белымі і ружовымі хрызантэмамі.

— Kiedy policja, — голас бярэ адзін з арганізатараў, — zechce was przesłuchać, nie bójcie się. To dla dobra sprawy.

Інфармуе ён таксама пра бягучыя праблемы Камітэта. У канцы жніўня г.г. радныя Бельска-Падляшскага далі дазвол на перапахаванне іх родных на ваенныя могілкі. Цяпер трэба многа энергіі, каб завяршыць справу. Зараз усіх сведкаў дапытвае мясцовая паліцыя.

— Ёсць надзея, што ўсё будзе па нашай думцы, — разважае старэйшая жанчына. — А так ездзіць далёка і дорага. А тут, як бачыце, усе амаль хворыя пенсіянеры.

— І добра было б, каб гэту эксгумацыю за дзяржаўныя грошы зрабілі. Што мы самі зваюем, як у нас усяго па дзвесце злотаў рэнты, — наракаюць падарожнікі. Пазней таксама бачу як цяжка выдаць ім сто тысяч злотаў (старых) за дарогу...

Аўтобус спыняецца ў Красным Сяле. Пілігрымку папаўняюць тры кабеты. Муж адной з іх просіць усіх на абед: „Адвязіце нам кабеты і пасядзім сабе троху разам. Ужо ўсё нагатаванае, сталы расстаўлены", — прыпрашае вельмі гаспадар.

Атмасфера ў аўтобусе становіцца сямейнай. Мужчыны ўступаюць месцы дасеўшымся жанчынам, малодшыя хлопцы — старэйшым дзядзькам. Нейкая цётка частуе ўсіх цукеркамі, іншая шакаладам. Нас, журналістаў (разам са мной быў і Юрка Ляшчынскі), частуюць як нікога. Пытаюся свайго субяседніка пра яго сям'ю. Далей плывуць успаміны:

— Гэта было троху *награнэ*, — разважае Ежы Кендысь родам з Лазіцаў. У час гэтых трагічных падзей яму было 11 гадоў. — Наехалі ў нашу вёску 26 студзеня, у сем гадзін вечара. Я яшчэ па двары бегаў. Найперш то сабакі ўсе разбрахаліся. Зараз жа бачу, як ідуць па вуліцы вайскоўцы з вінтоўкамі. Крычаць на нас: „Do domu gówniarze". Гляджу я, а тут уся вёска войскам абстаўлена. То я да бацькі падбег і пытаюся, у чым тут справа. Бацька ў размову са мной не ўступаў, толькі пагнаў мяне ў хату. Хату занялі недзе а дзявятай. Ва ўсёй вёсцы так было. Лазіцы — гэта невялічкая вёска, 13 хат. У кожнай такой хаце начавала 13—15 вайскоўцаў. У гэты вечар яны адразу спаць кінуліся, у вопратцы, не вячэраўшы. Як селядцы ляжалі. Тады то і дзіця адным малатком іх магло б пазабіваць. Хто ж ведаў якія ў іх планы? На другі дзень у вёсцы быў вялікі зрух. „Сваіх" вазакоў адправілі дахаты, а на іх месца паставілі тых, што прыехалі з нашых вёсак, быццам па дровы для гміны. Пазней рыхтаваліся ў дарогу. Многія з іх яшчэ спалі. У гэты дзень павыганялі ўсіх сямейнікаў з хаты. Я выпадкова застаўся ў хаце, бо схаваўся на печы.

Адзін з тых, што занялі нашу хату, ездзіў разведацца ў Гайнаўку. Там быў рускі транспарт. Доўга гадалі, што рабіць, аж урэшце сцвердзілі, што „jakoś tam sobie poradzimy". Тады таксама я падслухаў, як адзін з іх, можа 19-гадовы хлапчук, расплакаўся: „Zabijcie mnie lepiej, ja już z wami dalej nie pójdę". І яго пусцілі. Сярод гэтай банды было многа маладых, стройных хлапцоў. Адны былі апранутыя ў мундзіры і шапкі-канфедэраткі, іншыя звычайна, па-цывільнаму.

Лазіцы пакінулі 28 студзеня, недзе ў тры гадзіны пасля абеду. Разам узялі і нашага тата. Было яму тады 38 гадоў.

А па дарозе ў Арэшкава ўзялі і дзядзьку, брата бацькі. Ішоў ён з дубальтоўкай з Арэшкава, падляснічым быў. Дзядзька не ведаў, што нашага тата ўзялі, але яму сказалі, што як будзе ўцякаць, то ўсю сям'ю расстраляюць. Дзядзька аднак уцёк, за Гайнаўкай ужо, пасля перастрэлкі з саветамі. Так склалася, што везлі яго разам з параненымі палякамі. І вартаўнікі пабеглі ў хату па пярыну, каб раненых прыкрыць. Пры фурманцы адзін астаўся, але і той штораз адбягаў туды-сюды пагрэцца. Люты мароз узяўся. Тады

*Працяг на стар. 4*

*Яўген Мірановіч*

## КАПІТАЛІСТЫЧНАЯ БЕЛАРУСЬ

Ад 1 лістапада афіцыйны Мінск рыхтаваўся да вялікага святкавання гадавіны Вялікай кастрычніцкай рэвалюцыі. З гэтай нагоды залуналі чырвоныя сцягі на ўсіх установах сталіцы Беларусі, на ўсіх электрычных стаўбах. У кожным месцы, дзе толькі былі магчымасці ўпрыгожання шэрых муроў, з'явіліся сімвалы ваюючага пралетарыяту. Але сёлета гэта была толькі дэманстрацыя сілы лагера ўлады. Для большасці мінчукоў, з якімі мне прыйшлося гаварыць, гэтае свята не выклікала ніякіх эмацыянальных пачуццяў. Толькі ўсялякім ветэранам — вайны, сацыялістычнай працы — напамінае яно час іх маладосці, нейкай рамантыкі. Сённяшні час ім зусім чужы і незразумелы. Тады шчыра перажываюць яны ўсялякія заклілі маладых цынічных палітыкаў, каб вярнуць савецкую рэчаіснасць на беларускую зямлю. Праўдападобна такая самая колькасць, але па іншых прычынах, называе гэты дзень „сатанінскім святам". Але для значнай большасці гэта яшчэ адзін свабодны ад працы дзень, а ў гэтым годзе нават два дні. Лукашэнкаўская ўлада не шкадуе людзям святкаваць. Пасля трохдзённага святкавання „Дзядоў", быў усяго адзін працоўны дзень і зноў тры дні адпачынку — нядзеля, панядзелак і аўторак. На гэты раз адпачынак у гонар памяці дасягненняў Вялікага Ільіча і яго калегаў. Дарэчы, прадпрыемствы і так працуюць толькі 2—4 дні ў тыдзень, таму кожная нагода, каб афіцыйна пасвяткаваць ёсць выгадная для ўсіх. Ёсць яшчэ на свеце шчаслівыя народы.

### Крамы для багатых

Памыляецца кожны, хто піша, што Беларусь з'яўляецца скансэнам сацыялізму ў Еўропе. БССР ужо не існуе не толькі як юрыдычная адзінка вялікай імперыі, але таксама няма яе як грамадска-эканамічнай фармацыі. „Сацыялістычная рэспубліка" адышла ў гісторыю, асталіся пасля яе толькі мільёны сірот, гвалтаваных кожны дзень наплываючым з усходу і з захаду капіталізмам. Капіталізм, хаця агідны большасці грамадства, даволі паспяхова аплятае знерухомелыя гіганты сацыялістычнай гаспадаркі. Ніякім рыцарам камунізму, хаця б і былі яны ўсемагутнымі прэзідэнтамі, не пад сілу абараніць грамадства перад захопніцкім капіталізмам. Хапае выйсці на любую вуліцу Мінска. Сотні людзей нечым там гандлююць — хто сабакамі, хто сланечнікам, хто бананамі, хто кніжкамі, але ўсе гэтыя людзі пакінулі ўжо спадзяванне, што дзяржава гарантаваць ім будзе хаця б мінімальныя ўмовы сацыяльнага бытавання. Побач астаноўкі метро „Кастрычніцкая" знаходзіцца звычайная спажывецкая крама. Усе харчовыя прадукты з беларускіх калгасаў, і з беларускай сыравіны, і перапрацаваныя ў мясцовых прадпрыемствах можна

*Працяг на стар. 4*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Паважаныя сябры беларускай мовы! Таварыству беларускай мовы ім. Францішка Скарыны ўжо некалькі гадоў. Такога таварыства, як ваша, акрамя Украіны, няма больш ні ў адной краіне свету. Сапраўды, дзе, у якой яшчэ дзяржаве ёсць патрэба ў абароне роднай мовы, дзяржаўнай мовы?! Цывілізаваны свет да такога проста не дадумаўся,* — сказаў Мячэслаў Грыб, старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь на IV З'ездзе Таварыства беларускай мовы.

*Літаратура і мастацтва, н-р 41*

* * *

*У менскай сярэдняй школе робіцца ўсё, каб ліквідаваць беларускамоўныя класы, перавесці іх на мову, якую любіць Лукашэнка. Так настаўніца другога класа школы н-р 176 на сходзе бацькоў прапанавала ім навучанне дзяцей на рускай мове. Калі большасць не падтрымала настаўніцы, улады школы вырашылі правесці „рэферэндум" — сярод дзяцей. Але дзеці дружна адказалі — на беларускай! Настаўніца не здалася: пусціла ліст паперы з прозвішчамі дзяцей, супраць якіх бацькі павінны паставіць мову свайго чада. Зноў большасць выказалася за беларускай. Настаўніца, калі пабачыла вынікі сваёй „анкеты", ускліктула: „Я же русская. Мы уже учебники на русском языке приготовили". Дзеецца так таму, што розныя шавіністычныя сілы з СС „Белая Русь", Ліберальна-дэмакратычнай партыі (Жырыноўскага) адкрыта крычаць: „Беларуская мова павінна пайсці ў адстаўку!".*

*Наша слова, н-р 40*

* * *

*Pojednanie i przyjaźń z Ukraińcami nie są Polakom potrzebne. Widzą oni w Ukraińcach wroga, którego potrzebują. Ukraińcy nie mają za co przepraszać Polaków. Tzw. „polskie kresy" nigdy nie będą polskie, a od zawsze białoruskie, litewskie czy ukraińskie. Za sięganie po cudze Polacy zapłacili krwawą cenę. Stąd też nie należy oczekiwać przeprosin, tym bardziej od narodu ukraińskiego. Nigdy nie słyszałem, by Algieria przepraszała Francję za wyrzynanie francuskich kolonistów, a Indie i pół Afryki - Anglię za podobny finał ich kolonialnego panowania. Nie sądzę, by w najbliższej przyszłości uczyniła to jakakolwiek była republika radziecka wobec Rosji,* — піша ўкраінскі гісторык Яўгэн Місіла.

*Gazeta Wyborcza, nr 250*

* * *

*Obrazy Piotra Pawluczuka i rzeźby ludowe Włodzimierza Naumiuka trafiły do Białegostoku z okazji IV Festiwalu Kultury Ukraińskiej.*

*Gazeta w Białymstoku, nr 252*

Паўлючук з вёскі Галады, што каля Бельска-Падляшскага, у 1937 г. акрэсліў сваю нацыянальнасць як „беларус". На эміграцыі ў Аргенціне быў актыўным дзеячам тамашніх польскіх арганізацый. Пару гадоў пасля смерці мастака з'явіліся на Беласточчыне „ўкраінцы Падляшша", якія і далі пакойніку новую нацыянальнасць. Нябожчык не пратэставаў. Як украінскі мастак выступіў сёлета таксама Уладзімір Наўмюк, герой шматлікіх беларускіх радыёперадач і артыкулаў у нашым тыднёвіку. (Апошні артыкул друкаваўся ў „Ніве" ад 26.09.1994 г.)

* * *

*W Polsce ludzie głęboko wierzący i manifestujący swoją religijność zawsze — prędzej czy później — okazują się obłudnikami. Zresztą obłuda występuje w Polsce we wszystkich barwach i odcieniach.*

*Wprost, nr 44*

* * *

*W Polsce klną wszyscy, zaczyna się to już w przedszkolu, a kończy zapewne na łożu śmierci. Moje koleżanki, wykwintne aktorki, pachnące fiołkami, też klną jak szewcy,* — сказала Агнешка Асецка.

*Gazeta Współczesna, nr 209*

А, што ім не можна, б...ць!

* * *

*Murzyni w Ameryce trafiają do szkół drugiej kategorii, zaś do więzień kategorii pierwszej.*

*Polityka, nr 43*

У сучасным свеце няма ўжо нават каму паспачуваць чорным братам.

* * *

*Czym tłumaczy się fakt, że Białystok to kolebka, a zarazem główny teren ekspansji disco-polo? Ten region zawsze uchodził za kulturowo zaniedbany i zapomniany przez zapatrzone w siebie wielkomiejskie centrum. Przed wojną Białystok był zdecydowanie gorszy nie tylko od Warszawy, a tym bardziej Krakowa czy Wilna. Dzisiaj młodzież warszawsko-krakowska nadal hołduje zachodnim modom, ale Białystok wychodzi ze swym rodzinnym modelem rozrywki. Prowincja ta zdaje się odreagowywać za pogardę, jaką darzyła ją reszta Polski. Nie jest przypadkiem, że w muzyce disco-polo brzmi nuta wschodnia, białorusko-rosyjska.*

*Polityka, nr 43*

Большасць твораў музыкі дыска-пола — гэта беларускія песні ў выкананні польскіх калектываў.

* * *

*W Jaworznie są całe rodziny, które od pokoleń jedzą psy. Mięso jest delikatne, chudziutkie i kruche jak cielęcinka. Nie ma wcale żył ani chrząstek. A zapach po usmażeniu jest tak intensywny, że ślinka cieknie. Za 90 złotych można u miejscowych lumpów kupić litr sadła. Jest przezroczyste. Kupują go gruźlicy. Łyżkę psiego łoju trzeba rozpuścić w mleku i wypić duszkiem. Przy ul. Żółkiewskiego w Jaworznie stoi drewniana chata. Tutaj była psia rzeźnia. Miejscowy lump siekierą mordował psy. U sąsiada mleli mięso, dodawali pieprzu, soli, czosnku, smażyli kotlety, i do wódki mieli zagrychę. Najbardziej poszukiwane przez smakoszy psiny są zwierzęta zadbane, czyste i spasione.*

*Gazeta Wyborcza, nr 251*

Грамадзяне Явожна з вул. Жулкеўскага 5 лістапада маглі таксама браць удзел у выбарах прэзідэнта.

* * *

*Na jeziorze (woj. Suwalskie — red.) pływa łabędzia rodzina, składa się z ośmiu łabędziątek i matki. Ojcu ktoś poderżnął szyję, a zwłoki porzucił na brzegu. — Tu ani jeden łabyndź by nie pływał, gdyby dało się je zjeść. Ony są strasznie łykowate - tłumaczy mieszkaniec wsi, który zatłukł łopatą łabędzia, oskubał, upiekł i próbował. Łabędzia nad jeziorem ktoś zabił z nudów, a może po wypiciu piwa? Kapitalizm w tej okolicy objawia się powszechną dostępnością alkoholu. Młody Parański leży spity przy drodze. Wypił w jednej z budek nad jeziorem. Na spodniach rozlewa mu się ciemna, bura plama. Parański nie panuje nad swoim organizmem. Jego żona leży sto metrów dalej. Miała głowę nieco silniejszą. Młody Bogaczuk prowadzi wielkiego Bizona. Wszyscy uciekają z drogi. Po drodze Bogaczuk zwala trzy płoty, ale jedzie dalej...*

*Polityka, nr 94*

Нармальнае, спакойнае жыццё сялян у адной з мазурскіх вёсак.

## З мінулага тыдня

У выніку **першага тура прэзідэнцкіх выбараў** найбольш галасоў набраў лідэр СЛД **Аляксандр Квасьнеўскі** (35,11%). За цяперашняга прэзідэнта **Леха Валэнсу** прагаласавала 33,11% выбаршчкаў. На трэцім месцы апынуўся старшыня сеймавай Камісіі нацыянальных і этнічных меншасцей **Яцэк Курань** — 9,22%. У Беластоцкім ваяводстве перамог Лех Валэнса (37,86%) перад Аляксандрам Квасьнеўскім (34,54%), Янам Альшэўскім (10,42%), Яцкам Куранем (6,18%) і дзевяццю іншымі прэтэндэнтамі.

**У пахаванні Іцхака Рабіна** — прэм'ер-міністра Ізраіля, які трагічна загінуў ад куль яўрэйскага экстрэміста за палітыку мірнага сужыцця з арабамі, прымалі ўдзел многія дзяржаўныя мужы з усяго свету. Польскую дэлегацыю ўзначаліў прэм'ер-міністр **Юзэф Алексы**, а Рэспубліку Беларусь прадстаўляў міністр замежных спраў **Уладзімір Сянько**.

**Семінар** на тэму юрыдычных аспектаў супрацоўніцтва з Беларуссю, арганізаваны Польска-літоўскай гаспадарчай палатай, адбыўся ў Сувалках і быў прымеркаваны да кірмашу „Поль-Экспарт" у Гродне, які пачаўся 14 лістапада г.г. У праграме былі лекцыі па пытаннях мытных законаў, падаткаў, страхавання і фінансавага абслугоўвання, якія чыталі спецыялісты Гродзенскага абласнога выканаўчага камітэта. У семінары прысутнічалі таксама польскія і беларускія дыпламаты.

**Управа горада Беластока** вырашыла падараваць **Гродзенскаму абласному аддзяленню Саюза палякаў на Беларусі** аўтобус маркі „Ельч". Машына, па правядзенні рамонту на кошт беластоцкага прадпрыемства гарадскога транспарту, будзе прызначана для культурна-адукацыйнай дзейнасці, а таксама для перавозу дзяцей у польскую школу ў Гродне.

**У Лодзі**, у Галерэі „Т" у Клубе настаўніка, адкрыта выстава малюнкаў **Міколы Давідзюка**.

**Саюз украінцаў Падляшша** ў Бельску-Падляшскім выдаў паэтычныя зборнікі чатырох сваіх майстроў слова. У ліку ўкраінскіх паэтаў апынуліся **Ірына Баравік**, **Іван Кірызюк** і **Юры Трачук**, якія некалі дэбютавалі на старонках нашага тыднёвіка.

**У Ваяводскай управе ў Беластоку** адбылася нарада, прысвечаная канцэпцыі газіфікацыі Беластоцкага ваяводства і пабудове газавай магістралі Лапы—Бельск-Падляшскі—Гайнаўка. Планаваны газаправод будзе пралягаць цераз тэрыторыю гмін Пасвентнае, Вышкі, Бельск-Падляшскі, Орля, Чыжы і Гайнаўка. Прадугледжаны таксама яго адгалінаванні ў Бранск, Рудку, Боцькі і Дубічы-Царкоўныя. Планаваная газіфікацыя будзе мець дабратворны ўплыў на ахову Белавежскай пушчы.

**На чыгуначнай станцыі Семяноўка** сышла з рэек цыстэрна з 65 тысячамі літраў вадкага метанолу. Транспарт з васьмі цыстэрнаў з атрутай прыехаў з Беларусі і быў прызначаны на айчынны рынак як дадатак да паліва. На шчасце да трагедыі не дайшло і пажарнікам удалося бяспечна перапампаваць гаручую вадкасць у іншую цыстэрну. Прычынай выпадку былі спарахнелыя шпалы пад рэйкамі, якія лопнулі пад перагружанай цыстэрнай. У сувязі з гэтым выпадкам беластоцкі ваявода звярнуўся да міністраў транспарту і аховы асяроддзя з патрабаваннем узмацніць тэхнічны нагляд за рэйкамі і абмежаваць, а пазней забараніць перавоз небяспечных рэчываў цераз Семяноўскае вадасховішча.

## Праз тыдзень у „Ніве"

> Канферэнцыя настаўнікаў беларускай мовы ў Нарве.

> Занатоўкі Янкі Жамойціна з пабыўкі ў Беларусі.

> Юры Трачук папракае "Ніву" ў няведанні беларускай мовы.

Глыбокае спачуванне
войту Гайнаўскай гміны

**Вользе Рыгаровіч**

з прычыны напаткаўшага яе гора
**— смерці Бацькі —**

выказваюць Грамадскі камітэт пабудовы Беларускага музея і Аддзел БГКТ у Гайнаўцы.

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### Згодна з канстытуцыяй

Канстытуцыйны суд прызнаў, што прынятыя 7 верасня Вярхоўным Саветам змяненні і дапаўненні ў закон аб выбарах дэпутатаў ВС і закон аб выбарах дэпутатаў мясцовых саветаў не супярэчаць канстытуцыі. Згодна з гэтымі папраўкамі квота з'яўлення выбаршчкаў, пры якой выбары будуць лічыцца сапраўднымі, была зніжана з 50 да 25%. У сваім заключэнні КС адзначыў, што ВС меў права прымаць папраўкі да выбарчага заканадаўства, таму што на момант прыняцця (7 верасня) у ім працавалі 296 дэпутатаў, што складае канстытуцыйную большасць. Аднак прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка чарговы раз заявіў, што выконваць пастановы старога ВС не будзе.

### Бескарыслівы канфлікт

Спецыяльны саветнік дзяржсакратара ЗША па пытаннях СНД Джэймс Колінс, які знаходзіўся ў Менску з рабочым візітам, правёў перамовы са старшынёю Вярхоўнага Савета Мячэславам Грыбам. Па словах Колінса, амерыканскі бок з асцярогай ставіцца да магчымых вынікаў супрацьстаяння ў рэспубліцы паміж выканаўчай і заканадаўчай галінамі ўлады. Нарастанне канфлікту не прынясе карысці ніводнаму з бакоў, — заўважыў падчас размовы з амерыканскім госцем спікер беларускага парламента. Па яго словах, адзінае выйсце з сённяшняга тупіка толькі ў правядзенні паспяховых паў-торных выбараў новага дэпутацкага корпуса.

### Прэзідэнт за новы парламент

У авальнай зале Дома ўрада ў Менску прайшла другая нарада абраных дэпутатаў Вярхоўнага Савета XIII склікання, у цэнтры ўвагі якой былі пытанні актывізацыі ролі дэпутатаў новага складу парламента ў правядзенні паўторных выбараў у ВС. Выступаючы перад дэпутатамі прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка запэўніў прысутных у тым, што ён выказваецца за нармальную работу парламента, за нармальнае ўзаемадзеянне ўсіх галін улады. Пацвердзіў ён сваё жаданне, каб гэтыя выбары прайшлі паспяхова. Новыя дэпутаты прынялі рашэнне накіраваць ад сябе два звароты: да грамадскасці краіны як заклік да актыўнага ўдзелу ў выбарах 29 лістапада і ў Канстытуцыйны суд, каб апошні перагледзеў папраўкі ў законе аб выбарах у Вярхоўны Савет, якія дазваляюць цяперашнім кандыдатам атрымаць дэпутацкі мандат пры квоце выбаршчыкаў 25%. Такім чынам большасць дэпутатаў XIII склікання выступіла за тое, каб выбарчая кампанія праходзіла па старых правілах.

### Занепакоенасць афіцыйных прафсаюзаў

З пісьмом да прэзідэнта краіны наконт пагаршэння фінансавага становішча прадпрыемстваў і звязанай з гэтым масавай затрымкай разлікаў па заработнай плаце звярнуўся старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Уладзімір Ганчарык. Ён паведаміў, што толькі за верасень запазычанасць па выплаце зарплаты ў народнай гаспадарцы вырасла амаль у паўтара раза і на 1 кастрычніка перавысіла 680 млрд. рублёў. Абвастрэнне сітуацыі, на думку лідэра ФПБ, звязана з непаслядоўнай рэалізацыяй пастановы Кабінета Міністраў аб першачарговасці плацяжоў. Такая сітуацыя нагнятае сацыяльную напружанасць у працоўных калектывах.

### Збавенне для завода

На аднаўленне храма Хрыста Збавіцеля ў Маскве адгружае сваю прадукцыю Віцебскае акцыянернае таварыства „Кераміка". Штодзённа ў расейскую сталіцу адпраўляецца па пяць спецыяльных вагонаў адборнай цэглы, якой заказалі тут 40 мільёнаў штук. Пры стабільнай зарплаце (грошы за тавар пералічваюцца папярэдне) калектыў забяспечаны работай да лютага 1996 г. Затым мільён штук марозаўстойлівай віцебскай цэглы будзе адпраўлены для рэстаўрацыі сцяны маскоўскага Крамля.

### Новы музей

У былым доме і майстэрні народнага мастака Андрэя Бембеля (1905—1986) адбылася ўрачыстая вечарына, прысвечаная 90-годдзю з дня нараджэння выдатнага скульптара. Адначасова тут адбылося адкрыццё-прэзентацыя Музея сучаснай беларускай скульптуры імя Бембеля. З'ява унікальная тым, што гэта першы ў Менску музей мастака, а таксама першы ў рэспубліцы музей, які мэтай сваёй ставіць вывучэнне і збіранне калекцый сучаснага мастацтва.

### Балючая памяць

30 кастрычніка — Дзень памяці ахвяр палітычных рэпрэсій. Пяць гадоў таму толькі ў Брэскай вобласці налічвалася больш як тысяча рэабілітаваных, а зараз іх намнога больш. Рэабілітацыя грамадзян пацярпелых ад рук сталінцаў працягваецца, дзякуючы рабоце Абласной асацыяцыі ахвяр палітычных рэпрэсій. Становішча гэтых людзей вельмі сумнае, бо пенсіі не хапае ім нават на сціплае харчаванне.

# Дэмакратыя знізу

**APEL**
**do mieszkańców Bielska Podlaskiego**

...zdominowana przez komunistów Rada Miejska obsadziła zaufanymi ludźmi, jak należy sądzić zwolennikami kandydatury towarzysza Kwaśniewskiego, wszystkie komisje wyborcze nie dopuszczając do ich składu zgłoszonych w terminie przedstawicieli Niezależnego Samorządnego Związku Zawodowego "Solidarność" - największej w kraju organizacji społecznej, która wywalczyła Polsce niepodległość. W tej sytuacji, celem nie dopuszczenia (правільна – niedopuszczenia — рэд.) do sfałszowania wyników wyborów, zwracamy się do tych mieszkańców miasta, którzy pragną nadal żyć w Wolnej Polsce o pozyskanie pełnomocnictw od kandydatów na prezydenta reprezentujących opcję chrześcijańsko-niepodległościową i jak najliczniejsze obsadzenie obwodowych komisji wyborczych w charakterze mężów zaufania, dając w ten sposób swój wkład w powstrzymanie nawrotu bolszewickiej zarazy.

Terenowa Komisja Koordynacyjna
NSZZ "Solidarność"
w Bielsku Podlaskim.

***

Нядзеля 5 лістапада, 6.00. Разам з усёй Польшчай пачынае працу наша спецыяльная, 13-я участковая камісія. Спецыяльная таму, што ў закрытым аб'екце — гарадскім шпіталі. Наспех даносім патрэбныя столікі і крэслы. Хтосьці з пацыентаў хірургічнага аддзялення гаворыць уголас: „А што, к.., за восемсот тысяч то можна насіць!"

А гадзіне 6.25 з'яўляецца першы выбаршчык. Кветкамі яго не сустракаем.

7.00. Прагаласавалі 11 асоб. Некалькі чалавек адышлі ні з чым, бо не было іх на спіску. Нармальна ў выпадку тых, хто трапіў у шпіталь у пятніцу або суботу, пасля таго, як спісак быў здадзены ў Гарадскую выбарчую камісію. Але не знаходзім двух чалавек, якія ляжаць па тыдні.

У адной з залаў хворая пасля цяжкага інсульту хоча галасаваць. Аднак, не можна яе варушыць. Мы не можам таксама пайсці з урнай. Атрымліваецца тупік.

8.00. Уключаем тэлевізар. Большасць членаў камісіі штосьці чытае. Я рашаю крыжаванку ў часопісе „Rozrywka". Дапамагае мне муж даверу Квасьнеўскага.

Прыходзіць пані доктар і кажа, што тая пацыентка ўсё больш настойліва дамагаецца галасавання. Што рабіць? Ад нерваў яе здароўе можа яшчэ пагоршыцца. Тэлефануем у Гарадскую камісію, пані доктар тлумачыць складанасць становішча. Няма згоды на вынас урны — закон тут адназначны.

Хочацца кавы. Муж (а можа лепш — жонка, бо гэта жанчына) даверу Валэнсы, спрактыкаваная ў розных камісіях, кажа, што на вачах выбаршчыкаў сілкавацца не прынята. Ходзім па чарзе ў кабінет нашай старшыні.

9.00. У суседняй святліцы пачынаецца каталіцкая імша. Выбаршчыкі прыходзяць па аднаму. Відаць, загадзя ведаюць за каго галасаваць. І ведаюць як, зрэдку толькі хтосьці спытаецца, з якога боку ставіць крыжык.

Першыя члены камісіі робяць сабе перапынак. Дамаўляемся, што будзем выходзіць на змену, на тры гадзіны. Кожны з нас, такім чынам, перакусіць і загаласуе на сваім участку. У нас многа працы няма, ды проста цесна, калі сядзім у камплекце — адзінаццаць членаў камісіі плюс двое мужоў даверу.

У 10.15 пачаўся фільм з Луі дэ Фінэ. Хворыя тое, што не могуць глядзець тэлевізар, лічаць большым ударам па іхніх правах чалавека і грамадзяніна, чымсьці тое, што кагосьці няма на спіску. Хочуць вынесці тэлевізар на калідор. Мы не даем.

Адзін мужчына не занесены ў спісак, хаця ляжыць каля шасці тыдняў. Скандальны недагляд з боку шпітальнага персаналу, на які мы нічога зрабіць не можам.

Каля дванаццатай іду дахаты.

Вяртаюся ў тры. Атмасфера яшчэ больш сонная. На працягу гадзіны прыходзяць усяго тры цяжарныя жанчыны з гінекалогіі. Сын аднаго пацыента давёз пасведчанне з яго выбарчага ўчастка, так што можа галасаваць у нас.

Нямоглую старэйшую жанчыну, якая цяжка абапіраецца на спецыяльных колцах, прыводзіць суседка з залы. Нявыгадна з такім рыштаваннем ісці за параван. Кабета тут жа чытае бюлетэнь. „Валэнсу шукай, Валэнсу", нашэптывае суседка. „Ведаю", спакойна адказвае старая кабета. І абедзве памаленьку пасунуліся.

Парушаем звычаёвы закон выбарчых участкаў. Прыносім сабе гарбату. Мужа даверу Валэнсы няма з намі. Дарэчы, не з'явілася яна і на падлік галасоў.

17.00. Прагаласавалі роўна 50 чалавек. На працягу апошніх трох гадзін дайшла яшчэ адна асоба.

19.30. Галоўная інфармацыя вячэрніх вестак тэлебачання — смерць прэм'ер-міністра Ізраіля Іцхака Рабіна. Кажуць, што ў Грузіі перамог Шэварднадзе. Хтосьці на гэта: „Там напэўна было цікавей".

20.00. У тэлевізары пачынаецца выбарчая праграма. Зачыняем дзверы і бярэмся за падлік галасоў. На 144 асобы, памешчаныя на спіску нашага ўчастка, прагаласавала 51. Адзін голас быў няважны, па адным голасе атрымалі: Курань, Зялінскі, Гранкевіч-Вальц і Корвін-Мікэ. За Валэнсу прагаласавала 19 выбаршчыкаў. Перамог Квасьнеўскі, які набраў 27 галасоў.

Перад дзевятай вечара наш участак здаў пратаколы і бюлетэні ў Гарадскую выбарчую камісію. Як першы. І можна было выпіць за здароўе Пана Прэзідэнта, хто б ім не стаў. Хай пераможа лепшы.

***

„Дэмакратыя — гэта найгоршая палітычная сістэма. Але нічога лепшага не прыдумалі". *Уінстан Чэрчыль.*

**Мікола Ваўранюк**

# І БЕЗ ПАНА — БЯДА

Аб'екты былога ПОМу (Państwowego Ośrodka Maszynowego) у Бельску-Падляшскім знаходзяцца на тэрыторыі горада, але беластоцкі ваявода ў 1992 годзе аддаў іх пад адміністрацыю войта, г.зн. вясковай гміны Бельск-Падляшскі. Войт ішоў далей, намагаўся змяніць межы гмінаў так, каб ПОМ апынуўся на вясковай тэрыторыі. Гарадская рада, не жадаючы губляць грунтавы падатак, апратэставала рашэнне ваяводы ва Управе Рады Міністраў. І сёлета ў ліпені з Варшавы прыйшла пастанова, якая адхіляе яго і ўласнікам усяе маёмасці былога ПОМу назначае горад. Вясковая гміна адклікалася ў Галоўны адміністрацыйны суд. Пакуль прыме ён канчатковае рашэнне, ніхто не можа (і не хоча) адчуваць сябе паўнапраўным уласнікам спрэчнай маёмасці.

На гэтым, што няма аднаго пана, найбольш церпяць жыхары чатырох ПОМаўскіх блёкаў — разам 21 сям'я — на вуліцы Белавежскай. 8 верасня войт **Юры Ігнацюк** паведаміў іх, што ад 1 верасня перастаў ён быць адміністратарам. Тады ў кватэрах перастала цячы цёплая вада і да канца кастрычніка не ўключалі ацяплення. Людзі не ведаюць, каму плаціць чынш.

Дзеля вырашэння, што з гэтым рабіць, 25 кастрычніка была склікана сесія Гарадской рады Бельска. Прысутнічалі ў сесіі ўлады вясковай гміны і зацікаўленыя жыхары халодных дамоў. Дыскусія ў зале рабілася ўсё больш гарачая, эмацыяльная і нічуць не набліжалася да канкрэтаў. Прадстаўнікі гміны заяўлялі, што ў іхнім адчуванні, уласнікам адназначна з'яўляецца горад і ён павінен дбаць пра сваіх людзей. Тым больш, што раней была такая дамова між дзвюма ўправамі, заключаная ў прысутнасці самога ваяводы.

Для гарадскіх уладаў, у сваю чаргу, яснае тое, што пакуль няма праваМоцнага рашэння Галоўнага адміністрацыйнага суда, няма ўласніка. А пакуль няма ўласніка, адміністратар не можа зрачыся выконваць свае абавязкі. „У святле існуючых законаў, — так тлумачыў прысутны ў зале юрыст, — не можна абрэзаць цёплую ваду і перастаць ацяпляць кватэры". Паперу, якую ўлады гміны лічаць абавязваючай два бакі дамовай, улады горада называюць пратаколам сходу, без юрыдычных паслядоўнасцей.

Калі нават прадстаўнік ваяводы пацвердзіў, што пакуль няма пратаколаў здачы маёмасці, адміністратар застаецца той сам, войт Ю. Ігнацюк пытаўся: „На якой падставе лічыце мяне адміністратарам? На моцы якога закона? Вам так толькі хочацца бачыць справу і ўсё!"

„Калі войт не пачуваецца нават адміністратарам, — абураліся жыхары, — тады якім правам прадаў ён чатыры кватэры, якім правам столькі часу браў ад нас чынш?"

Згодай у зале і не пахла. Наадварот, штораз часцей паяўляліся мала далікатныя словы, абвінавачванні ў ілгунстве. Прадстаўнікі вясковай гміны заявілі, што няма тэхнічных перашкод, каб запрацавала ПОМаўская кацельня хоць наступнага дня. Ёсць толькі праблема, хто за гэта заплаціць. І пакінулі залу. Тады Гарадская рада прыняла пастанову, у якой гаворыцца, што „паводле законаў няма магчымасцей перанясць былы ПОМ горадам". Абавязкі адміністратара надалей павінен выконваць войт. Але, калі Галоўны адміністрацыйны суд прызнае аб'ект гораду, яго ўлады забавязваюцца вярнуць вясковай гміне кошт ацяплення блёкаў на вуліцы Белавежскай.

Я не ведаю, ці па сённяшні дзень споўнілася мара аднае жыхаркі, каб раніцай, калі яна прачнецца, у кватэры было 20 градусаў, і каб можна было нармальна памыцца. „Мне ўсё роўна, — казала яна, — ці мой дом будзе на вясковай, ці гарадской тэрыторыі".

**Мікола Ваўранюк**

# ЧАМУ ТАК?

У Чаромсе ў кіёску на пероне можна купіць не толькі часопісы і газеты, але і многа іншых тавараў, як шакалад, напіткі і іншае. Працуюць у ім дзве прадаўшчыцы. Яны зараз з'яўляюцца і „шэфамі", і пастаўшчыкамі, і прадаўцамі ў адной асобе. Тавар выбіраюць самі, са складаў прывозяць яго ўласным транспартам. Дбаюць яны пра кліента, як гэта павінна быць у рынкавай эканоміці.

Пацікавіўся я „Нівай".

— Атрымоўваем чатыры экземпляры, — кажа Галіна Шатыловіч. — Пад новы год трэба будзе заказаць больш святочных экземпляраў. Раскупяць. Вядома, кожны хоча мець каляндар „Нівы".

— Чаму гэта так? — стаўлю сабе пытанне. — Зараз пастаўляецца ўсяго чатыры паасобнікі ў тыдзень для продажу, а з календаром разыходзіцца ў дзесяткі разоў больш.

(УС)

# У чаромхаўскіх пажарнікаў

Яшчэ некалькі гадоў таму, пры камуне, у Чаромхаўскай гміне дзейнічалі дзве пажарныя каманды — гмінная добраахвотная і чыгуначная прафесіянальная. Яны карысталіся неабходным абсталяваннем і аўтамабілямі. Мелі сваё пажарнае дэпо.

У час „перастройкі" змяніліся абставіны ў чаромхаўскіх пажарнікаў.

Цэнтральная дырэкцыя ПКП, шукаючы грашовых рэзерваў вырашыла, што пажарнікі чыгуначнікам непатрэбныя. Ліквідавалі пажарную каманду.

Летам г.г. узнік пажар у вёсцы Чаромха. Згарэла клуня.

Некалькі тыдняў пазней згарэлі клуні ў Кузаве і Ставішчах. На працягу некалькіх месяцаў — тры пажары. На кузаўскі пажар прыехалі пажарнікі з суседніх раёнаў. Толькі з Чаромхі, мясцовых, не было.

Трэба адзначыць, што кляшчэлеўскія пажарнікі прыехалі вельмі хутка. Як мне сказаў знаёмы шафёр з Кляшчэляў, яны былі б на паўгадзіны раней, але ў тым часе тэлефанавалі ў Гайнаўку, каб дакладна даведацца, дзе ўзнік пажар і ці яны могуць туды паехаць (такі, мабыць, закон).

На маю думку, дзіўная гэта „перастройка". Не менш здзіўляючым фактам з'яўляюцца законы, якія тычацца дзейнасці пажарных добраахвотных і прафесіянальных каманд. Праўду кажа прымаўка: „Няхай сабе і ўся вёска згарыць, але парадак мусіць быць".

(ус)

# Бібліятэкі папаўняюцца

Зараз бібліятэка ў Пачатковай школе ў **Нараўцы** налічвае 10 600 тамоў. Яе кнігазборам карыстаецца 328 вучняў і настаўнікаў. Сёлета школьная бібліятэка папоўнілася 75 новымі кніжкамі.

Варта адзначыць, што ўжо 16 гадоў вядзе яе Вольга Семяняка.

Школьная бібліятэка ў **Семяноўцы** мае 5 900 кніжак і 110 наведвальнікаў. Да 30 кастрычніка бягучага года кнігазбор павяліўся на 50 тамоў. Бібліятэка мае даволі шмат беларускіх кніжак. У семяноўскай школе амаль усе дзеці ахвотна вучацца беларускай мове. Кніжкі ім пазычае Ірэна Аліхвер.

(яц)

# Прыроду трэба шанаваць

Хто з нас не хоча пайсці ў лес за ягадамі ці грыбамі? Кожны жыхар горада марыць аб тым. Нават мы, вясковы народ, выкарыстоўваем кожную нагоду, каб „выскачыць" на ўлонне натуры, паслухаць шчабятання птушак, удыхнуць свежага паветра, духмянага паху жывіцы, назбіраць ягад ці грыбоў. Гэтае казачнае каралеўства стварыла людзям прырода.

А як мы ставімся да дабрадзейнасці натуры? Вось, што я прыкмеціў у сваім лесе: кучы паржавелага лому, разбітага шкла, бутэлькі па гарэлцы і напоях.

Хачу адзначыць, што ў Чаромсе і Кузаве ёсць назначанае месца для звалкі. Аднак людзям выгадней і хутчэй выкінуць непатрэбныя рэчы ў лес, каб толькі ніхто не бачыў.

Кузаўская звалка знаходзіцца непадалёк могільніка. Там кузаўцы капалі гравій. Аднак тут вялікі беспарадак. Кожны выкідае смецце, дзе хоча, аднак не там, дзе трэба, таму ў навакольным сасновым маладняку можна пабачыць як валяюцца кускі папяровых і фольгавых упаковак. Брыдка гэта ўсё выглядае!

Дзе ж наша экалогія, даражэнькія?! Сумна пісаць мне аб гэтым. Спадзяюся, аднак, на зразуменне аднавяскоўцаў. Мы гэту праблему самі павінны вырашыць.

Прыроду трэба шанаваць.

**Уладзімір Сідарук**

# Пілігрымка асірацелых

*Працяг са стар. 1*

дзядзька выкарыстаў зручны момант і кінуўся на панадворак, хутка пабег за хату, за хлявы і за стадолу. Так і ацалеў. Меў шчасце, брамка была якраз адкрыта.

— Кліхы ўжо, — ажывіліся падарожнікі. Тут пілігрымаў сустракае консул Беларусі Ігар Хадасевіч. На могільніку шмат мясцовых. Парадкуюць магілы сваіх родных. За два дні свята памерлых. Уражваюць некаторыя прозвішчы на каталіцкіх крыжах: Васілюк, Ільяшук, Давідзюк.

Нашая група выклікае цікавасць. Людзі прыбліжаюцца, але захоўваюць бяспечную адлегласць.

— Ці ведаеце, чыя там магіла? — пытаюся ў 15-гадовых юнакоў, якіх смешыць праваслаўная багаслужба.

— Mówią, że ruskie tu leżą, — адказваюць, не здзіўляючыся занадта. Якраз ідзе служба на царкоўнаславянскай мове.

— А вунь нашыя, таксама ў той час пабітыя, — паказваюць старэйшыя палякі магілу акаўцаў, якая размясцілася паралельна, праз два рады магіл, за вазакамі. Абедзве магілы прыбралі дзеткі з пачатковай школы.

*Як я цябе шкадавала, як любіла*
*А ты мяне асіраціў, і дзеткі*
*нашыя пакінуў.*
*Ой Боханькі, Божа! Божа!*

— пачуліся хаўтурныя галашэнні старэнькай бабулі. Услед за ёй пачалі плакаць усе кабеты. Нават мясцовыя падышлі да магілы і перахрысціліся. Спачувалі.

— Нас шасцёра было, — успамінае брат Валодзі Кота з Махнатага, — а ён найстарэйшы. Саветы хацелі ўзяць яго на фронт, але тады брат выкруціўся, сказаў што ён паляк і яго адпусцілі. За немца то яго намаўлялі, каб кароў у Нямеччыну гнаў. Адмовіўся. У Лазіцы па загаду паехаў. Як прапаў, то думалі, што можа ў Сібір вывезлі. Пасля двух дзён гарэла Краснае Сяло. З нашай вёскі добра было відаць пажарышча. Ніхто аднак не спалучаў гэтага са знікненнем Валодзі. Валодзю Коту з Махнатага было тады дзевятнаццаць гадоў.

Пухалы-Старэ. Дзвесце метраў за вёскай лес, а там дрэва з выразаным маленькім крыжыкам. Тут таксама айцец Феадосій служыць паніхіду. Паломнікі забіраюць свечкі, каб не загарэўся лес. Пераходзяць у другое месца, на ўзгорак.

А бабуля Настасся Фашчэўская і тут галосіць. Цалуе дрэва з крыжыкам.

— Гэтае месца мне ў сне прыдалося. Яшчэ тады, як іх забралі. Ой, Божачкі! Што я тады мелася! Не ела, не спала, з галавы валасы павылазілі. Як не свая хадзіла, плакала. І тады муж мне прысніўся. Уваходзіць у хату, памаладзелы, як з вянца. Я ад радасці слова не магу прамовіць. А ён замест са мной прывітацца, адразу ідзе да печкі пагрэцца. А пазней мне кажа: „Не плач, дарагая, я ўжо не пакутую. А ты цяпер глядзі дзяцей". І пайшоў недзе ў імглу. Пазней яшчэ пачула голас, што шукаць трэба ў лесе, дзе на дрэве крыжык будзе выразаны. Пазней праз пяць гадоў я ўжо ведала, што з ім зрабілі. Сказаў мне настаўнік з нашых бакоў, які там, у Кліхах, працаваў. Быў там, калі раскапалі магілу. Я нікому не гаварыла, бо і сама не магла зразумець усяго гэтага. Настаўніка, што сказаў мне страшную навіну, сустрэла як у сне, на чыгуначнай станцыі ў Рыгораўцах. Не ведаю, чаму я туды пайшла. А ён, відаць, пашкадаваў мяне таму няшчасную. Відаць, Бог даў нам там сустрэцца.





Лукаш Фашчэўскі з Краснага Сяла загінуў на 37 годзе жыцця. Асіраціў дзве дачушкі і 32-гадовую жонку.

На ўзгорку, метраў дзвесце ад крыжыка ў лесе, таксама знаходзіцца месца пакуты. У час перадапошняй пілігрымкі адкапалі там косці. Там таксама такі, як у лесе, крыжык. Навокал трохгадовыя сасонкі. Відаць, што месца гэтае міналі грыбнікі, бо ўсюды поўна прымерзлых апенек. Зараз ніхто не з'явіўся з вёскі. За стадоламі відаць толькі зацікаўленых дзяцей.

— Тут іх у зямлянкі загналі і пастралялі. Нават не закапалі як людзей, толькі голлем накрылі. Пазней ваўкі іх целы расцягвалі, — расказвае старэнькі дзядзька.

Мар'я Скепка, тады Шуецкая, успамінае:

— Тата яшчэ па дарозе ў Лазіцы заехаў да нашай сястры і пакінуў ёй сякеру. Пазней, як ужо з атрадам вяртаўся праз Арэшкава, то я з ім апошні раз сустрэлася. Суседка прыбегла і кажа, што бацька там разам і хлеба просіць. Мама адкроілі мне паўбуханкі хлеба і паслалі мяне перадаць татку. Тата мяне пабачылі, уцешыліся. І тады гэтыя бандыты пачалі мяне біць прыкладамі, па галаве, па спіне. Татку таксама білі. Пазней многа гадоў гаравалі. Не было ў што апрануцца, абуцца. Як адна абула чаравікі, то другая чакала, калі тая прыйдзе і чаравікі скіне. Маме ўсё гэта адбілася на здароўі. Бывала, што розум адымала. Бегала і вішчэла па лесе ад гэтага гора.

Ян Шуецкі з Арэшкава асіраціў сямёра дзяцей.

— І ведаеце, мая дачка цяпер тут замужам, недалёка гэтых Пухалаў. Пайшла за паляка, хаця ўсе мае дзеці ведаюць гэтую гісторыю, — закончыла расказ Мар'я Скепка.

* * *

На ваенным могільніку ў Бельску-Падляшскім стаіць новы крыж з таблічкай:

**Ś. ‡ P. Zamordowanych**
**29 mieszkańców**
**(Furmanów)**
**b. pow. Bielsk Podlaski**
**31.I.1946 r.**
**w lesie k. wsi Puchały Stare.**
**Cześć ich pamięci!**

**Ганна Кандрацюк**
**Фота аўтара**

---

# КАПІТАЛІСТЫЧНАЯ БЕЛАРУСЬ

*Працяг са стар. 1*

купляць у неабмежаванай колькасці. Цэны амаль аднолькавыя, як у Польшчы. Толькі гарэлка яшчэ напалову таннейшая, затое віно ў два разы даражэйшае. Варта аднак падняцца на наступны паверх, дзе знаходзіцца італьянская крама, а побач яе прыватная беларуская, з мясцовымі ў большасці прадуктамі, але ў якой шмат таксама вырабаў з Польшчы.

У італьянскай краме парадак працы такі як на захадзе. Плаціць можна любой валютай пры ўмове, што яе маеш у вялікай колькасці. Выбар харчовых прадуктаў праўдападобна там не меншы, чым у Рыме, Парыжы ці Гамбургу. Цэны, праўда, у два разы вышэйшыя, чым на першым паверсе, але пакупнікоў таксама нямала. Менскія сябры інфармуюць мяне, што гэтыя крамы для ўсялякіх мафіёзі і дзяржаўных карумпіраваных ураднікаў. Мне аднак здаецца, што не так дрэнна жывецца савецкаму чалавеку, як ён гэта нам прадстаўляе. Побач, у прыватнай краме з польскімі і беларускімі таварамі, цэны тых самых прадуктаў на 20—30% ніжэйшыя, але і ахвотных купляць таксама было нямала. Апрача мінеральнай вады і хлеба ўсё там нашмат даражэйшае, чым у Беластоку, аднак чэргі пры электронных касах сведчылі пра тое, што ў сталіцы Беларусі такія цэны нікога не палохаюць.

## Бедныя беларусы

Паслухаўшы мінскіх знаёмых — журналістаў, лекараў, рабочых, апазіцыйных палітыкаў — у мяне склалася ўражанне, што яны зарабляюць у тры—чатыры разы менш, чым выдаюць. Гэты эканамічны феномен Польшча перажыла двойчы: спачатку пры панаванні першага сакратара Герка, а пасля падчас ваеннага становішча. Афіцыйная сярэдняя зарплата складае 40—50 долараў. Але ўсе згодна заяўляюць, што каб абмежавацца толькі да гэтага, што афіцыйнае, людзі хадзілі б абарваныя і паміралі б ад голаду. У Мінску аднак людзі апрануты больш шыкарна, чым у Варшаве, а закругленыя твары не сведчаць аб недахопе харчовых прадуктаў. Таму амаль у кожнага грамадзяніна сацыялістычная плата складае толькі нейкі працэнт таго, што ён у сапраўднасці зарабляе. Гэтая бээсэсэраўская сірата жыве перш за ўсё дзякуючы сваёй прыватнай заангажаванасці, легальна ці нелегальна, але існуе як фактар на капіталістычным рынку, а нават яго будуе супраць сваё волі, не ведаючы прытым, што прымае ўдзел у гэтым працэсе. Да таго ж мае амаль дармовыя ўсе камунальныя паслугі.

Здаецца, ніколі не было ў Польшчы столькі пунктаў абмену валюты, што ёсць іх цяпер у Мінску. Долар, нямецкая марка маюць дакладна такую самую цану, што на пачатку года.

Развіццё прыватнай уласнасці найлепей відаць на прыкладзе будаўніцтва. Кругом Мінска вырастаюць катэджы быццам бы вясковыя пасёлкі, але ўласнікі новабудаваных вілаў не ездзяць на трактарах у поле, а найчасцей на „Мэрседэсах" ва ўсялякія „офісы" сталіцы.

Людзі ўжо перасталі думаць пра „родину", а перш за ўсё думаюць пра сябе, сваю сям'ю, свае інтарэсы. Гэта сведчыла б аб поўнай нармальнасці, калі б усё гэтае адбывалася ў нармальнай дзяржаве. Але большасць грамадзян не ведае, ці хоча жыць у незалежнай краіне, мову суседняй дзяржавы прымае за сваю, а нацыянальныя сімвалы трактуе абыякава.

## Анекдоты і палітыка

Безумоўна галоўным героем анекдотаў, якія апошнім часам расказваюць сабе жыхары Беларусі, з'яўляецца прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка. Чапаеў і Брэжнеў праўдападобна ў магіле перакручваюцца ад зайздрасці. Жахлівы змест жартаў пра Лукашэнку сведчыць аб тым, што інтэлігенцкі Мінск проста не пераносіць прэзідэнта. Нікому не было і не ёсць і таямніцай, што Лукашэнка не пераносіць таксама інтэлігенцыі. Будучы ў Мінску, дамовіўся я на інтэрв'ю з дэпутатам ВС, былым намеснікам старшыні Беларускага народнага фронту, цяпер старшынёй Навукова-аналітычнага цэнтра „Беларуская перспектыва" Валянцінам Голубевым. Размова мела месца ў сядзібе Вярхоўнага Савета на плошчы Незалежнасці. Набліжалася пара абеду і дэпутат Голубеў запрапанаваў пакарыстацца ўрадавым рэстаранам. Дабрацца ў рэстаран аказалася справай не надта простай. З увагі на прысутнасць прэзідэнта ў будынку ўсе ліфты былі выключаны. Каля дваццаці хвілін ішлі мы тады ўсялякімі калідорамі ў рэстаран, які ў сапраўднасці напамінаў мне сталовую трэцяй катэгорыі. На месцы аказалася, што большасць пустых столікаў звычайна „браніраваныя", бо неўзабаве мелі з'явіцца новаабраныя народныя дэпутаты. Сапраўды, „нардэпы" ўвайшлі ў незвычайнай цішыні. Амаль ніхто нічога не гаварыў, моўчкі чакалі на афіцыянтку, якая ў даны момант магла запрапанаваць ім толькі адзін набор падаграваных страў. Дэпутаты з'явіліся ў рэстаране непасрэдна пасля сустрэчы з прэзідэнтам. Відаць, былі пад „большим впечатлением" і не зважалі на тое, што елі.

Нармальны абед, — сказаў дэпутат Голубеў, — у Мінску можна таксама з'есці — у прыватным — капіталістычным рэстаране за капіталістычную цану. Сацыялістычным дэпутатам, у большасці старшыням калгасаў, прыйшлося тады пакаштаваць сацыялістычных страў у сацыялістычным рэстаране. Відаць было як страшэнна мучыліся спадары дырэктары, падымаючы за кожным разам лыжку чагосці, што напамінала вараную бульбу. Праўдападобна вымушаны яны былі ў гэты дзень даць зарабіць капіталістам, ідучы ў прыватныя рэстараны.

**Яўген Мірановіч**

*САКРАТ ЯНОВІЧ*

# Канец купалаўскай уяве нацыі

Янка Купала не быў ідэолагам беларускай нацыі. Не пакінуў ён нашчадкам у спадчыну распрацаванай тэорыі на гэты конт. Каб так здарылася, трэба было б у ім яшчэ і таленту палітыка. Разам з тым і грунтоўнае адукаванасці, якое, аднак, не меў. Варта зазначыць, што на тэарэтыкаў беларускасці нам, наогул, не шанцавала. Інтэлектуальную падбудову беларускаму руху стваралі саматугам самі яго дзеячы, прычым сярэдняе рукі, па-аматарску слаба дасведчаныя ў палітыцы. Падатлівыя маніпуляцыям з боку лепей падрыхтаваных суседзяў. Нярэдка ў ролі марыянетак іх нават, не заўсёды ўсведамляючых пры гэтым сваю падпарадкаванасць ім.

Як пісьменнік, а перш за ўсё паэт, Купала ўяўляў сабою ад пачатку выдатную з'яву, што характэрнае ўнікальным самародкам. Чым жа тады вырозніваўся ён у плеядзе спадарожнічаючых яму зорак першай велічыні на фірмаменце беларускай літаратуры? Нельга яго непасрэдна раўняць з рафінаваным Максімам Багдановічам, асобай з поўнай класічнай асветаю. Ані з Якубам Коласам, у якім дамінаваў менталітэт эпіка. Янка Купала стаў, менавіта, вешчым песняром, прарокам. Гэта было яму наканавана, звычайна, фактам абуджэння да грамадскага жыцця беларусаў, якія знаходзіліся на данацыянальным, племянным, узроўні самасвядомасці. У іншым гістарычным кантэксце ягоны дар паэтычнага трыбуна не разгарнуўся б на ўсю моц. Ён пісаў, якраз, каб абуджаць. Варушыць сумленні! Эстэтыку фразы і вобраза падпарадкоўваў тэзе. Без аўтаноміі самакаштоўнасці слова. Па сваёй сутнасці ён нацыянальна-палітычны пісьменнік. З адэкватным тэмпераментам, па прычыне якога браўся не раз за справы не пад сілу натхнёнаму вершаскладальніку. Палітыцы, як вядома, патрэбны процілеглыя якасці індывідуума і характару. Самазабойчыя ўсё ж уражлівай душы.

Ад дэбютнага „Мужыка", канструяванага ў паслянародніцкім духу, да манументальных радкоў „А хто там ідзе..." канцэнтруецца ўся паслейшая творчая існасць Янкі Купалы. Надаў ёй кангеніяльнае развіццё, маштабнасць адчуванняў і думак. Як Міцкевіч апяяў шляхецкі двор, фундамент ідэі Польшчы, так Купала апаэтызаваў мужыка, без якога немагчымая Беларусь. Згодна трэцяраднай катэгорыі сялянскіх народаў Еўропы, паласа якіх прасціраецца ад паўночнае Балтыкі да Чорнага мора і славянскіх рэгіёнаў на Балканах. Абуджэнне іх, следам за ранейшым па плебейскіх этнічных арэалах — прыкладам: у Чэхіі — адбывалася прыблізна аднолькавым шляхам. Пачынальнай умоваю тут аказалася ліквідацыя прыгону. Найпазней, на жаль, у Расейскай Імперыі, якая трагічна дарэшты ахоплівала Беларусь, не даючы шанцаў кшталтам аўстрыйскага ўкраінства ці прускай Літвы, фінскай паўсамастойнасці або пецярбургскага апякунства эстамі і латышамі дзеля рэдукцыі там старадаўняй нямецкай уплывовасці. Калі дэталёвей прыгледзецца гісторыі маладых нацыяналізмаў, дык, як правіла, выяўляецца іх функцыянальнасць у машынерыі інтарэсаў спаборнічаючых дзяржаў на кантыненце. Адны аб'ектыўныя перадумовы фармавання нацый, пазбаўленых жывых традыцыяў уласнае дзяржаўнасці, у аніводным выпадку не паказалі сябе самачынна дастатковымі; без імпульсаў і матэрыяльнай падмогі звонку яны гібелі або заставаліся ў своеасаблівай летаргіі. Гэта таму здзіўляе, не зарыентаваных у тым, павярхоўных даследнікаў маруднасць узнікнення беларускай нацыянальнасці, па сёння не закончаны працэс ейнае спеласці ды кансалідацыі. І комплекс сірочасці ў яе актывістаў. Як быццам адсутнасць неабходнасці ў ёй свету.

Не шыкоўныя бульвары гудзелі тады беларушчынай, а вясковыя вуліцы ды ўскраіны жыдоўскіх мястэчак. Малюючы бацькаўшчыну, старонку родную, Купала зрэдку кліча ў сваю памяць гарады і замкі велічэзныя, чужародныя беларусу. Упершыню урбаністычны пейзаж спрабаваў увесці ў нашу літаратуру ўжо Багдановіч, „Старою Вільняй". Тым не менш яе творчы аб'ём бачыцца, аднак, сялянскім. Гэта не зласлівасць лёсу, а непрысутнасць у ёй аўтараў мяшчанскага паходжання, бо не ў камяніцах мроілі пра бел-чырвона-белую свабоду. Гаварыць пра беларускую буржуазію не даводзіцца ў сур'ёзным тоне. Купалаўская ўява беларускай нацыі жывілася вёскаю. Несціханай мараю пазбавіцца галоты, у якой вінаваты былі, вядома, чужакі. Далей саламянай страхі і ўбогага поля не відаць Беларусі, толькі Расею або ўедлівыя цені Польшчы. З тых хатаў павінна была разбуяць свая айчына, не панская і не баярская. Так рэалізавалася там, дзе здолелі ўтварыць незалежную дзяржаву — у Літве, Латвіі, Эстоніі, Фінляндыі. Галоўная мэта кожнага нацыянальнага руху — фіналізавацца ва ўласных дзяржаўных структурах, не абавязкова ў якасці суб'екта міжнароднага права. Канчаткова не дабіўшыся хоць чаго-колечы, апускаецца такі рух у дэгенерацыю, замірае, паступова знікае і базавы яму этнас паводле механікі самаасіміляцыі нацыянальных меншасцяў, таксама малых народаў. Прыклады таму — на неславянскай поўначы Расеі, або: брэтонцы ў Францыі, серба-лучыжане ў Нямеччыне, фрызійцы ў Нідэрландах, галісійцы ў Іспаніі, валійцы ў Англіі.

Беларускі рух, не выпрацаваўшы загадзя праграмы на самастойнасць, самарэалізаваўся мінімальна, на ўзроўні перыферыйнай аўтаномнасці, канчаткова здзейсненай у рамках СССР. Падобны фінал украінскіх, аднак жа максімалістычных, амбіцыяў, ці на старажытным Каўказе пасведчваюць, што не ступень спеласці свядомасці вырашае ў дасягненні суверэнітэту, а патрэбнасць, менавіта, у існаванні яго як элементу будаўніцтва нейкага новага гістарычнага ладу ў кантынентальным рэгіёне. Здушыць голай сілаю Прыбалтыку ў дваццатым годзе мог абы-які камандзір чырвонаармейскага злучэння, але міжнародныя інтарэсы Масквы не дазвалялі на тое. Блакада бальшавіцкай агрэсіі сюды ішла ад Берліна насамперад.

Можна не сумнявацца ў тым, што Янка Купала прадчуваў і затым глыбей разумеў тадышнюю ўтапічнасць у нас незалежніцкіх ідэй. У Беларусі не праглядалася за імі грамадска істотная традыцыя. З'явіліся яны ў выглядзе — справакаванага ў некаторым сэнсе — Акта 25 Сакавіка. Народныя масы, ні трохі не падрыхтаваныя да гэтага, успрынялі Беларускую Народную Рэспубліку з пакорлівасцю ўзвычаеных слухацца ўсякае ўлады. Беларусаў яшчэ чакала праца з закладваннем падмурка сваёй нацыі. А пакуль што духоўна балявалі тут „усходні вучоны" з „заходнім вучоным", маючы ў служках тутэйшых Зноскаў.

Міф Беларускага Дома ілюзорна ўзвысіўся ў Савецкай Беларусі. Нельга яго інтэрпрэтаваць як наіўнасць аніматараў беларускай справы. Гэта праўда, што хапала ім, тыповай ідэалістам, даверлівасці падкідаючым беларускай картай палітыкам, аднак недапушчальна вінаваціць іх у плыткадуммі, недальнабачнасці. Зыходзілі ж з першапытання: ці магчыма праводзіць выніковую нацыянальную барацьбу без пашыранай, менавіта нацыянальнай, свядомасці? Значыць, найперш трэба таго, што Дантон сігнальна называў у Французскую Рэвалюцыю школаю. А яна трывала арганізавалася не ў Польшчы. Пад саветамі якраз. І туды, да іх, натуральна і рушылі. Ствараць ініцыяцыйны арэал беларускай нацыі, пасля чаго і саму дзяржаву.

Купалаўская ўява на прадмет гэтага характарызавалася поўнай нарматыўнасцю на тыя часы і ўмовы. Бальшавіцкая тактыка „карэнізацыі кадраў", хаця і аказалася потым мышалоўкаю, на працягу другое паловы дваццатых гадоў пазітыўна раскамплексоўвала адраджэнскі актыў, адчыняючы перад ім выхад у сферу дзяржаўнага дзеяння, накіраванага на беларусізацыю рэспублікі. Без нагаданага эпізоду, памятайма, мы сёння не мелі б чым, гістарычна блізкім, паслужыцца, бо паралелі з Вялікага княства Літоўскага не давалі б нам цяпер пажаданай экспрэсіі як даўно зніклыя з жывое памяці і адаптацыйнага ўспрыняцця.

*(заканчэнне будзе)*

*Віктар Ярмалковіч*

# На жыццёвых хвалях

*(працяг; пачатак у 41 н-ры)*

### Зноў вайна

Была нядзеля. Я яшчэ спаў. У дзверы пастукала гаспадыня. „Уставай, вайна!" — пачуліся словы. Я ўсхапіўся і адкрыў дзверы ў суседні пакой. Сусед сядзеў пры радыёпрыёмніку. „Так, — сказаў ён, — нямецкія арміі перайшлі граніцу і пруць на ўсход".

Я адзеўся. Выйшаў на вуліцу. У краме купіў яшчэ некалькі булачак і гэта быў мой цэлы ваенны запас. Доўга блукаў я па горадзе, шукаў знаёмых. Глядзеў, як надляталі самалёты, як сыпаліся бомбы, слухаў як вылі сірэны.

З напатканым знаёмым зайшлі мы ў акадэмічны інэрнат на Боўфаловай. Студэнты высыпаліся на балконы, прыглядаліся бамбёжцы. Гэта не падабалася салдатам, якія пачалі іх зганяць з балконаў ды загадваць хавацца, прычым гразілі яшчэ ружжом.

Тут не да жартаў, разважаў я, трэба адысці згэтуль. Выйшаў я з інтэрната і, хаваючыся падчас паветранай трывогі па брамах, неяк дайшоў да сваёй кватэры. Было ўжо далёка за поўдзень. Так прайшла нядзеля.

Пачалася неспакойная ноч. Вылі сірэны і час ад часу гудзелі самалёты, громам разрываліся бомбы. Спаць было немагчыма. Большую частку ночы праседзеў я разам з іншымі ў садку над Віленкай. Лезці ў бамбасховішча баяўся, каб там мне жывога не засыпала.

Настаў дзень. Гул самалётаў і грукат узрываў не сціхалі, а часам нават узмацняліся. У перапынку паміж трывогамі пайшоў я на месца работы. Нікога ўжо там не было. Дзверы былі закрытыя. Зайшоў я ў Рэспубліканскую пракуратуру і там тое ж самае.

Набліжаўся поўдзень. Рух вайсковых падраздзяленняў узмацняўся. Пасля абеду ў горадзе месцамі чуваць было страляніну. Выйшаў я на вуліцу і накіраваўся ў цэнтр горада з намерам зарыентавацца што там робіцца. Бачыў я, як устрывожаныя салдаты з падраздзяленняў, якія праходзілі праз горад, пад гул выстралаў разбягаліся пад муры і хаваліся ў брамах. Выявілася, што пачала дзейнічаць партызанка.

Пад вечар налёты прыціхлі, затое шумела і грымела навокал Вільні.

Выйшаўшы ў аўторак на вуліцу, пабачыў я нямецкія танкі, вакол якіх завіхаліся гітлераўскія салдаты. Пасля абеду прыехаў на ровары мой брат Міхал. „Няма чаго тут сядзець і чаго чакаць, едзем на вёску" — гаварыў ён мне. Для мяне, хіба, быў гэта адзіны выхад. Цяпер я быў без працы, без грошай і ў кожнай хвіліне паграджаў мне арышт, бо працаваў я ў савецкім апараце, а гэтага ў тым ваенным часе хапала, каб быць абвінавачаным.

На адным ровары паехалі мы з Вільні.

### У вёсцы

Пераначаваўшы ў Місючанах у Міхала, пайшоў я ў Юшкі. Сноўдаліся яшчэ недабіткі савецкай арміі, ішлі на фронт нямецкія салдаты. Некаторыя з іх заходзілі ў хаты, кідаліся ў гаворку. Было відаць, што гэта звычайныя змабілізаваныя людзі, якія не мелі да нікога ніякіх прэтэнзій і на вайну выгнала іх гітлераўская ўлада. Горш было, калі некаторыя салдаты лавілі і рэзалі ў вёсцы курэй або забіралі коней, хаця нешта за іх плацілі. Можна было яшчэ з гэтым мірыцца. Так ішлі дні.

Аднойчы суседзі вярнуліся з кірмашу ў Тургелях. Надта яны хваляваліся, калі расказвалі, як немцы лавілі там яўрэяў і здзекаваліся над імі. Абазначала гэта, што сякі-такі спакой, які тут быў да гэтага часу, кончыўся. У Табарышках таксама раскватараваўся спецыяльны нямецкі атрад. Яго салдаты ездзілі па вёсках на роварах або на падводах і шукалі камуністаў. Вечарамі ў мястэчку чуваць было выстралы. Так расстрэльвалі злоўленыя ахвяры.

Быў сонечны гарачы дзень. Пайшоў я над рэчку. Раптам ні з таго, ні з сяго ў мястэчку падняўся крык, прагучэлі выстралы. Сумятня ўзмацнялася і набліжалася да мяне. Хтосьці ўцякаў у кусты, у мой бок. Аказалася, што гэта салдаты з гэтага нямецкага атрада так грамілі яўрэяў. Занепакоены, вярнуўся я дахаты. Далёка за Табарышкамі ў пагодным небе ўздымаўся слуп дыму. Гэта гарэла хата Гасюлёў у Гірдзееўцах. Адзін чалавек з гэтай сям'і працаваў у сельсавеце. Прыехалі за ім і, не знайшоўшы яго, падпалілі хату. Я таксама быў у небяспецы, так як і мой брат Язэп, які працаваў у валасці. Хапіла б у той час камусьці ўказаць мяне пальцам і назваць камуністам, а смяротны прысуд быў бы выкананы.

З таго часу стараўся я як найменш прабываць у хаце, доўга працаваць у полі, начаваць у садзе. Вярнуўшыся аднойчы ў хату, заўважыў я ўстрывожанасць маці. З Табарышак прыехаў паштальён-партызан, які супрацоўнічаў з гэтым атрадам, і пытаўся пра нас, рабіў вобыск, чагосьці шукаў, забраў дакументы і фатаграфіі.

Сядзець тут даўжэй было небяспечна. Трэба было ўцякаць.

*(працяг будзе)*

Зорка
Старонка для дзяцей

# У Курашаве




Пяцікласнікі з Курашава.

Напрыканцы кастрычніка „Зорка" завітала ў Курашава, што ў Чыжоўскай гміне.

У школе „Ніву" ведаюць усе: і настаўнікі, і вучні. Многа тут нашых чытачоў. Можа таму тут была такая сімпатычная і гасцінная атмасфера.

— Раніцай мае дзеці заявілі, што трэба прыгожа апранууца, бо „Зорка" прыязджае, — успамінае адна настаўніца.

Праўда.

Ад рання ў школе запанаваў святочны зрух. Школу наведалі нават нядаўнія выпускнікі, стройныя кавалеры. Да таго ж надвор'е расцвіло залатой восенню. Першую сустрэчу з васьмікласнікамі, сямікласнікамі, шасцікласнікамі і пяцікласнікамі падрыхтавала настаўніца беларускай мовы Людміла Дзмітрук. Моладзь ставіла многа-многа цікавых пытанняў. Мацнее чалавек, калі сустракае маладых, інтэлігентных і цікавых свету вучняў.

Гутарка наша закранала многія праблемы „малой айчыны", „маёй вёскі" і яе духоўна-матэрыяльнай спадчыны.

— Каб не нашая настаўніца, пані Дзмітрук, мы б нават не ведалі, што такое вышываны ручнік, старыя макаткі, ці старыя гаспадарчыя прылады, — заявілі вучні.

Апрача этнаграфічнага куточка ў зале вісяць насценныя газеты „Мая вёска" (дзе прэзентуюцца здымкі Міхася Дзмітрука), „Бацькаўшчына" і „Беларускія літаратары". Варта адзначыць, што цэлая зала прызначана для заняткаў па беларускай мове.

— У нас амаль усе вучні вывучаюць беларускую мову, нават палякі, — сказала беларусістка.

— Школа тут невялікая, — гаворыць дырэктар Аляксандр Купрыяновіч, — усяго 48 вучняў. Але нашы вучні ўдзельнічаюць ва ўсіх конкурсах, мерапрыемствах. Нядаўна паўстаў у Курашаве дзіцячы танцавальна-вакальны гурт. Пакуль што спяваюць там чатыры дзяўчынкі: Аня Красноўская, Ася Дэнісюк, Малгажата Янчук і Марта Васілюк. Групай апякуецца настаўніца Крыстына Ніказаюк.

Варта таксама згадаць пра працу айца Яўгена Сушча. Вядзе ён урокі рэлігіі на мясцовым дыялекце. Бацюшка многа часу прысвячае арганізацыі дзіцячых лагераў.

— Для дзяцей з вёскі паездка ў другі канец Польшчы, ці большую мясціну, мае велізарнае значэнне, — гаворыць святар.

Іншыя настаўнікі таксама расказваюць пра свае планы.

— У нас паспяхова дзейнічае школьны пункт продажу „Склепік". Штодзень у ім прадаем свежыя булкі і бутэрброды.

Пазней адбылася сустрэча з малодшымі класамі. Дзеці расказвалі пра свае зацікаўленні, пасляўрочныя заняткі. Усе хлапчукі хочуць у будучыні стаць, так як іх бацькі, „гаспадарамі". І ўсе любяць казкі пра жывёл і звяроў.

— Мне найбольш падабаюцца казкі, якія расказвае бабуля, — хваліцца дзяўчынка.

Іншыя дзеці, якія не маюць ужо бабуль, зайздросцяць дзяўчынцы. Я таксама.

**Ганна Кандрацюк**
**Фота аўтара**



Сямікласнікі са сваёй выхавацелькай Людмілай Дзмітрук.

## Вершы Віктара Шведа

### Сынка павялічваць не трэба

Прывяла мама Дзіму
Да фатографа ў горад.
Той спытаў: — Можа здымак
Павялічыць вам скора?

А матуля на гэта:
— Павялічваць не хочам.
Па ўсіх жа прыкметах
Расце хутка сыночак.

### Толькі дзве двойкі

Бацька праглядае дзённік Віці
І сыночка да сябе паклікаў:
— Бачу, стаў ты крышку лепш вучыцца,
Маеш толькі двойкі дзве па ліку.

А сыночак дарагому татку
Зусім шчыра адказаў на гэта:
— Мяне выклікалі на занятках
Да адказу толькі з двух прадметаў.

### Не ўжываў іх ноччу

— Дарагі Макар,
Мама просіць рана, —
Памый рукі, твар,
Будзем есць сняданак.

Неслухмяны сын
Памыцца не хоча.
— Я ж многа гадзін
Не ўжываў іх ноччу.



## Пішуць школьнікі

### Вітай „Зорка"!

Мяне завуць Юліта Вэршко. Я вучаніца V „э" класа бельскай „тройкі". Хачу Табе, „Зорка", расказаць пра мае падарожжы.

На канікулы я паехала да сваёй бабулі. Жыве яна ў вёсцы Кленікі. Там разам са сваёй сястрой памагалі мы бабулі ў гаспадарцы. Гулялі з любімым Місем і з малымі кацянятамі. Таксама з цёцяй хадзілі мы на рэчку. Купацца было вельмі прыемна.

У жніўні разам з бацькам мы паехалі ў горад Лодзь. Там я захаплялася вялікай калькасцю магазінаў і велізарнымі дамамі.

Пасля Лодзі наведалі мы Варшаву. У Варшаве мы бачылі Каралеўскі замак, раку Віслу, Палац культуры і навукі.

У палацы былі мы на 31 паверсе, адкуль відаць панараму Варшавы. Здалёку Вісла выглядала зусім маленькай. Пасля мы аглядалі найбольшую гасцініцу ў Польшчы „Мар'ёт". Я хацела пабачыць яшчэ многа іншага, але трэба было вяртацца.

Лічу свае канікулы ўдалымі.

**Юліта**




*Малюнкі да казкі "Крыўда і Праўда", якая друкавалася ў "Зорцы" ад 8 кастрычніка, даслалі многія вучні. Сёння змяшчаем самыя цікавыя працы. Намалявалі іх: 1) Моніка Койла — вучаніца V класа Пачатковай школы ў Крыўцы, 2) Анэта Срока — вучаніца VI кл. ПШ у Ягуштове, 3) Агнешка Качаноўская — вучаніца VI кл. ПШ у Чыжах.*



Талон "Зоркі" н-р 7
19.11.1995



*На ўроку рэлігіі ў вёсцы Чаромха.* Фота Міколы Ваўранюка

# Пра дачку і бярозу

Было гэта даўно. Аддала маці дачку далёка, у чужую старонку замуж. Не пашчасцілася дзяўчыне, муж яе біў, абзываў няддобрымі словамі, у хаце панаваў недастатак і холад.

Пасля года прыехала да дачкі маці. Давай ёй маладзіца расказваць пра сваё гора. Але маці кажа:

— Не кажы ты мне такога, дачушка родная. Вунь бярозка стаіць, ты ёй пажалься, каля яе паплач.

Паслухала дачка маці. Пайшла да бярозы паплакала, гора расказала. І бярозка засохла.

Праз год зноў маці прыехала да дачкі ў госці.

— Мамка родная, няма каму гора расказаць, бярозка і тая высахла, — зноў жаліцца дачка.

А маці кажа:

— Вось, дачушка, а каб ты мне расказала, я б таксама не жыла б, а так бярозка замест мяне высахла.

*(паводле беларускай народнай казкі апрацавала А.А.)*

## Конкурс!

Намалюйце ілюстрацыю да гэтай казкі і дашліце яе ў „Зорку".

# Польска-беларуская крыжаванка н-р 7

Запоўніце клеткі беларускімі словамі паводле значэнняў, што на польскай мове. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце ў „Зорку" на працягу 2 тыдняў. Сярод аўтараў правільных адказаў разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку н-р 3:** мова, дом, мыла, роды, вол, мама.

Узнагароды — запісныя кніжкі — атрымаюць:

1) **Марыля Тапалеўская** з Кленік,

2) **Малгажата Крыстасюк** з Бельска-Падляшскага,

3) **Серафім Карпюк** са Станцыі Валілы,

4) **Пятрусь Філіманюк** з Курашава.

Віншуем!

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| ↓ | JARD / ROZPACZ | SŁAWA | PIECZYWO DROŻDŻOWE | ↓ | SROKA |
| → | | ↓ | ↓ | | |
| | LIR → | | | | |
| PRÓG → | | | | | |
| PRAGNIE-NIE | OKO → | | | | |
| → | | | | | ↑ HUBA |

Наш слоўнік:
Huba (grzyb pasożytniczy) – чага
Lir (jednostka monetarna Włoch) – ліра.

**Рашэнне пластычнага конкурсу**

У конкурсе прымаюць удзел усе дзеці, якія даслалі свае ілюстрацыі да казак „Сварлівая жонка" і „Крыўда і Праўда". Самыя цікавыя малюнкі друкуем на старонках „Зоркі". Узнагароды — каляровыя фламастэры „Магік" — выйгралі:

1) **Аня Нестарук**, вуч. V класа Пачатковай школы ў Крыўцы,

2) **Эмілія Цэха**, вуч. VI „б" класа ПШ у Нараўцы,

3) **Моніка Шыманюк**, вуч. VI „б" класа ПШ у Нараўцы,

4) **Аля Асташкевіч**, ПШ у Ягуштове.

Віншуем!

У наступным нумары аб'явім вынікі конкурсу для карэспандэнтаў.

**З-ка**

<u>Вучнёўская творчасць</u>

## Няшчасце

Чаму скажыце мне, чаму
я няшчасце маю?
Чаму скажыце мне, чаму
я ўсё перажываю?
І праліла я мора слёз,
а шчасця так і не было.
Адно чаго магу хацець —
прагнаць няшчасце тое прэч!
І зноў смяяцца, з усімі так,
нават калі бяда прыйшла б.

## Адзінка

Я зноў атрымала адзінку.
Баюся ісці дахаты —
ведаю, што бацькі зноў будуць
крычаць,
хіба што не заўважаць маёй няўдачы.
Але ўсё ж сорамна так вяртацца.

**Аня Садоўская,**
**вучаніца VII класа,**
**Нарва**

## Загадкі (н-р 4) з падарожжа

1) Ляжыць лася, расцягнулася, а як устане, то і да неба дастане.

2) З месца не зрушыцца, а на сабе многа чаго носіць.

3) За лесам лясанскім, за полем палянскім, там гукала Кацярына галасам шатанскім.

4) Двое вачэй наперадзе, імчыць па вёсцы і горадзе. А як наесца, не рушыць з месца.

5) Прыйшоў хтось, узяў штось, пайшоў бы шукаць. ды следу не знаць.

Адказы дашліце ў „Зорку". Калі вы адгадаеце хаця б дзве загадкі, будзеце ўдзельнікамі жараб'ёўкі цікавых узнагарод.

Адказ на загадкі н-р 2 („Ніва" н-р 43): 1) маланка, 2) мароз, 3) гром, 4) снег, 5) лёд.

Узнагароды — касеты гурту „Белы сон" — атрымаюць: **Крыстына Янчук** з Курашава, **Данель Копа** з Бельска-Падляшскага і **Аня Селеванюк** з Шастакова.



*Наталька Парэмбская з Гарадка піша ікону княгіні Юльяны Гальшанскай.*
**Фота Ганны Кандрацюк**

# ЛЕГЕНДЫ БЕЛАСТОЦКАЙ ЗЯМЛІ

## Мацейкава гара

Няхай шкадуе той, хто яшчэ не наведаў гэтай красачнай мясціны. Тут амаль з самай плыні Нарвы ўзлятае ўвысь на колькі сажняў*) стромкая Мацейкава гара, а з яе вяршыні прасціраецца на якіх дзесяць вёрстаў*) маляўнічы краявід на навакольныя пушчы ды рачныя даліны. На поўдні цёмнай сцяною ялін ахінае свае таямніцы Лядская пушча, а ўдалечыні сінее абрыс магутнай Белавежы. Злева, зусім пад гарою, ад аднаго лазовага куста да другога, зрэдку параскіданых па ўскосным лузе, перабягае струмень Руднік, каб зараз жа ўскочыць у Нарву. Справа ж, паўз Лядскую пушчу з годнасцю коціцца Нараўка і, як быццам неахвотна, улівае свае воды ў рэчышча старэйшай сястры.

Мясцовыя людзі гэты суток*) завуць Воўчым горлам. І невядома чаму: ці то раней наведваліся сюды з колішняй аграмаднай Бельскай пушчы, марнай рэшткай якое асталася сённяшняя Лядская пушча, гайны*) згаладнелых ваўкоў ды спрытна рэзалі ўсё жывое, ці таму што лагодная Нараўка тут трапляе ў прагавітую Нарву, быццам у ненасытную воўчую пашчу?..

Мацейкаву гару аддзяляе ад сушы даволі шырокае багенца ў нейкім дзіўным паглыбленні, што як быццам бы злучае гэтае колішняе зарослае старарэчышча з ракою Нарвай. Ці не след яно колішняга абароннага рову, бо ўся Мацейкава гара — гэта дасканалае месца на сярэдневяковую крэпасць?

Легенда кажа, што даўным-даўно жыў тут дужы і бязлітасны гвалтаўнік Мацей. Нікога і нічога ён не баяўся: збудаваў на гары непрыступную крэпасць і жывіўся разбоем. Абіраў купцоў на гасцінцы, што пралягаў паміж старадаўнімі Ваўкавыскам і Бельскам, а злучаў далёкія гарады і краіны ўсходу і захаду. Нападаў Мацейка і на плыты ды лодкі, што плылі па абедзвюх рэчках. А каб зручней было пераймаць падарожных, загадаў сваім нявольнікам пракапаць новае логава Нарве. І паплыла яна з таго часу ля самай гары. Тады ўжо ніводзін падарожны не змог пазбегчы сустрэчы з крывавым Мацейкам. Мацнела крэпасць разбойніка і пухлі ў ёй сундукі ад золата ды іншага дабра.

У каламутныя асеннія і зімовыя ночы, калі рака цяжка ўздыхала ды стагналі ад віхуры пушчы, спраўляў Мацейка свае балі: забаўляўся са сваімі прыгажунямі-паланянкамі нядобрай гульнёю. На світанку канчалася гульбішча, а целы замучаных нявольніц абмывала рачная тонь.

Але ж здарылася, што разбойнік закахаўся ў адну са сваіх нявольніц. Апранаў яе ў дарагія строі, загадаў слугам спаўняць усе яе пажаданні апроч аднаго: ні на крок не выпускаць з цвердзі. Кляўся разбойнік ёй у верным каханні і, стоячы перад ёю на каленях, благаў узаемнасці. Аднак дзяўчына, замест раскошнага жыцця з бандытам, выбрала сабе смерць і ў адну завірушную ноч павесілася на сваёй касе. Грабежнік упаў у адчай. Некалькі дзён стаяў ён, як слуп солі, пры мёртвым целе каханай, а яго зрок патанаў у слязах. А калі ачнуўся, дык загадаў справіць дзяўчыне небывала раскошнае пахаванне і дзеля таго вымураваць у двары крэпасці глыбокую грабніцу. Калі грабары ўнеслі туды абкаваную золатам труну, Мацейка таксама спусціўся за ёю і сказаў замураваць разам з каханай і сябе самога.

Гэтак гаворыць легенда. Старэйшыя людзі ў Мацейкавай гары яшчэ і цяпер паказваюць месца, дзе быццам бы знаходзіцца тая грабніца. У ветраныя зімовыя ночы, калі па небе віхор гоніць шматкі пашарпаных хмараў і па лугах і палетках мяце пазёмкаю ды стогнуць і галосяць пушчы, тады з грабніцы явіцца золатам ззяючая труна і схіленая над ёю магутная мужчынская постаць.

**Пачуў і пераказаў**
**Мікола Гайдук**

-------------

**Сажань** — колішняя мера даўжыні, 1 сажань = 2 м 13 см.
**Вярста** — даўняя мера адлегласці, 1 вярста = 1 км 60 м.
**Суток** — месца злучэння дзвюх рэк, ручаёў.
**Гайна** — статак, чарада, гурт ваўкоў або сабак.

# Свята ў беларускім прадшколлі

Мара пра беларускае прадшколле ў Беластоку ў нейкай ступені здзейснілася толькі сёлета, калі пры прадшколлі н-р 14 пачалі працаваць дзве групы з беларускай мовай навучання.

Найбольш заўзяліся, каб прадшколле для беларускіх дзетак усё-такі стварыць, сужонствы Пякарскіх, Калінаў, старшыня Беларускага саюза Яўген Вапа. Звярнуліся з просьбай да ўправы горада і, пасля перамоў, атрымалі два пакоі ў вышэйзгаданым прадшколлі. Вялікую мерытарычную дапамогу пры адкрыцці прадшколля аказалі радны Антон Мірановіч і юрыст Пятро Юшчук.

Вядома было адразу, што ў гэта прадшколле пойдуць дзеці Юркі Каліны, Басі Пякарскай, Антона Мірановіча, Янкі Максімюка, Юркі Хмялеўскага, Пятра Юшчука, Гандзі Кандрацюк. Трэба было, аднак, арганізаваць іншых бацькоў, каб запісалі дзяцей у гэта беларуска-польскае прадшколле. Аб'яўлялі па радыё і ў газеце, хадзілі па людзях, вялі размовы.

І вось 1 верасня 1995 года прадшколле пачало працаваць. Сёння ў малодшую групу ходзіць пятнаццаць дзетак, а ў старэйшую — васемнаццаць. Малодшую групу вядуць Альжбета Чыжэўская і Галіна Іванюк, а старэйшую — Эва Гняздоўская і Альжбета Бурачэўская. Яшчэ працуюць тут дзве асобы як дапамога настаўнікам — Ірына Максімюк і Альжбета Андрасюк. Увесь час тут гавораць з дзецьмі па-беларуску. Калі нейкае дзіця не зразумее — яму ўсё дакладна растлумачаць. Галоўнае — каб дзіця аслухалася з беларускай мовай. Ужо шэсць асоб маюць заняткі ў нулявым класе. Гэтых дзетак вучаць чытаць і пісаць па-беларуску і па-польску.

26 кастрычніка г.г. адбылася першая вялікая ўрачыстасць у прадшколлі. Звязана яна была з перадачай беларускім дзеткам дараў ад урада Рэспублікі Беларусь, якія прывезла беларуская ўрадавая дэлегацыя на чале з віцэ-міністрам адукацыі і навукі прафесарам Анатолем Гарнаком.

Усё пачалося ад высвячэння беларуска-польскага прадшколля праваслаўным свяшчэннікам. Высвяціў яго пратаіерэй а. Юры Мацкевіч — спачатку памяшканне старшакоў, а тады — і малышоў. Пасля прывітаў дзяцей Генеральны консул РБ у Беластоку Міхась Слямнёў. А яшчэ пазней гаварылі ўжо ўсе — і госці, і выхавацелькі, і бацькоўскі камітэт.

Дзеці спявалі песні і дэкламавалі вершыкі. Спачатку крыху насцярожаныя, яны выразна ажывіліся, калі ў іх памяшканне пачалі ўносіць дары: паўднёвакарэйскі тэлевізар, японскі відэамагнітафон, розныя відэакасеты з беларускімі казкамі, песнямі, калыханкамі, усялякія гульні, батлейку, буквары, метадычныя дапаможнікі, найлепшыя вітаміны для дзяцей у форме рыбак. Дзеці аж войкнулі, калі член беларускай дэлегацыі Генадзь Пяцігор разам з Міраславам Пякарскім уцягнулі вялікі маляваны куфар на цацкі. Разглядалі ігры, а асабліва зацікавіла іх кардонная вопратка для кардонных лялек — наскрозь беларуская, нацыянальная.

Цешыліся дзеці, цешыліся бацькі і госці. Прыемна ведаць, што нехта пра цябе думае, што намаганні бацькоў і ўсіх беларускіх дзеячаў, якія рабілі захады ў справе беларускага прадшколля, далі добрыя вынікі і знайшлі водгук на Беларусі. Ад прадшколля ж пачынаецца чалавек!

— Во каб нам у будучыні прыдбаць асобны будынак! — уздыхнула Бася Пякарская. — Гэта наша мара.

— А каб яшчэ і школа!.. — дадала Галіна Максімюк.

Думаецца, што калі хтосьці пачынае адчуваць патрэбу вывучэння роднай мовы ўжо ў прадшколлі, дык і школа будзе.

**Ада Чачуга**
**Фота аўтара**



*Пачынальнікі.*



*Айцец Юры Мацкевіч высвяціў беларуска-польскае прадшколле.*



*Бацькоўскі камітэт ахвотна зрабіў здымак з Генеральным консулам Беларусі Міхасём Слямнёвым.*

## Новыя вершы

### Смак выгнання

Спаўна адведаў смак пакут.
Кілішкі поўныя нядолі,
піў гора з вядра нагбом
калі пакінуў родны кут.
У горле застравала,
у галаве кружыла,
ліліся слёзы, трэскаліся жылы.
Душа гібела, дух адлятаў.
Жывое цела крумкач кляваў...
Ды мо звярнуся я назад
у родны край,
як у „райскі сад" — як у той
Эдэм, дзе жыў Адам.
Краіны роднай не аддам.
Ды й Бог мяне не прымусіць,
каб я адрокся Беларусі.
У вашым „чарапку"
ні памяці, ні мозгу.
Не ведаеце, што можна, чаго
не можна.
Знямелыя, бязвольныя, як паўзуны
ды, мусіць, лёс такі
няшчасны ваш.
Змагацца з ім няма сілаў.
Старэйшы „брат" вас абяссілеў.
Ды памяць адабралі ў цябе
пры тваёй згодзе,
ты слабы, падатлівы, народзе!

### Беларусь абкрадзена

Беларусь! Ты на свеце такая
Боскай воляй адна нам дадзена.
А цяпер ты абкрадзена,
чужынцам аддадзена.
Ты была ды ізноў у прыгоне,
над табою чужыя законы.
Чужакі пажынаюць твае загоны.

### Цябе забылі твае дзеці

Цябе забылі дома твае дзеці.
Мову і ласкі сваёй маці.
Хіба ж мы зберажэм,
каб потым
здалёк прынесці вашым дзецям
— „патомкам".
Божа, нам дапамажы
далёка ад радзімы
ў чужых, сярод мноства моў
захаваць скарб, сваю нацыю,
захаваць мову сваю маці.
Прынясі назад дамоў.
На Беларусі забудуць
роднай мовы гукі
бацькі, дзеці і ўнукі.
Аддалі ўсё ў чужыя рукі.
Хоць, пэўна, сказаць я мушу:
О, бедны родны край мой,
Беларусь!

### Я вярнуся

У чужым далёкім краю
збярог мову і айчыну.
Прыйду з душою чыстай,
дадому я вярнуся.
Нізка к нагам тваім
схілюся.
Богу памалюся, радзіме пакланюся.

### Ты прызвычаены хадзіць толькі крукам

Свой стан выпрастаць не здольны.
Не можаш галаву падняць.
Твая хада чутна глухім стукам,
голасу зусім не чуваць.
Ты, беларус, нягеглае стварэнне,
цябе пераправілі ў раба.
Твае суседзі — ты кажаш:
— „Нашыя браты".
Чаго ж дайшоў ты
да гэткай неміаты?
Не можаш адазвацца
сваёй мовай
на гэты здзек.
Не была ж ты, а чалавек!

### Вялікая падзяка табе, Аўстралія

Вецер з Пацыфікі — мой спадарожнік.
Ён добры, ціхі, мяккі і цёплы.
Я і ты — мы не канквісты,
а змагары былых баталій.
Мы крочым разам з далёкай Аўстраліі.
Ты змагаўся караблі правесці спакойна
па акіяне вялікім
змагароў, іх пляды.
А я ў Беларусі за народ, супраць
саўлады.
За гэты доўгі час змяніўся свет,
там уладары другія.
Ды ўсё па-старому жывуць мне родныя.
Вятрыска мілы, дай мне параду-савет:
Звярнуцца мне ў Беларусь, або
ўстрымацца?
Паклон табе і шчырая падзяка
прытульная, гасцінная Аўстралія.
Чужынца ты прыняла і шанавала,
як роднага брата.

* * *

Пастарэў целам, занямог,
растраціў годы маладыя,
але душой вясновай усё ж жыву,
што на радзіме будуць дні другія.
Таму з надзеяй дадому спяшу.
Штосьці у падарунак прынесці
прыдбаў, збярог.
Не з голымі рукамі
з'яўлюся на бацькоўскі парог.

**Сымон Шаўцоў,**
**Аўстралія**

# ПАЛІТРАБОТА МІНІСТРА

Пасля таго, як дэлегацыя Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь на чале з намеснікам міністра Анатолем Гарнаком уручыла каштоўныя падаркі беларуска-польскаму дзіцячаму садзіку ў Беластоку, адбылося спатканне ў Беларускім консульстве. Прынялі ў ім удзел, між іншым, гарадскія і асветныя ўлады ды бацькі, якія гэты садзік арганізавалі. Апошнія найбольш спадзяваліся на дыскусію пра будучыню садзіка, пра праблемы з адукацыяй на беларускай мове дзяцей беластоцкіх беларусаў. Замест гэтага пачулі даклад міністра Гарнака пра нацыянальную сімволіку Беларусі. Відаць, спадар міністр уражаны тым, што беларусы Беласточчыны праігнаравалі рашэнне прэзідэнта Лукашэнкі аб вяртанні дзяржаўных сімвалаў БССР і надалей публічна ўшаноўваюць Пагоню ды бел-чырвона-белы сцяг, доўга гаварыў пра тое, як гэты герб і сцяг луналі над Беларуссю пры гітлераўцах. І як цяпер беларускі народ у слаўтым рэферэндуме адрокся ад гэтых „фашысцкіх" сімвалаў.

Вядома, у такіх умовах ніякай дзелавой дыскусіі пра школьніцтва не атрымалася.

**М.В.**

# Семдзесят восьмая вера

**Успаміны Мікалая Чарнецкага**



### Прыход і адыход першай вайны

Нарадзіўся я ў 1903 годзе. У школу хадзіў ад сямі гадоў. У 1914 годзе Вільгельм адкрыў вайну з Расіяй. Тата меў сіні білет і яго ў войска не бралі — узялі капаць акопы. А мяне згадзіў на Стачку авечкі пасці — па гарцу жыта ад авечкі за лета. Пад восень, пасля жніва прыйшоў дадому начаваць. Рана ўстаем, глядзім — пажарная шопа, у якой бочкі з вадою, гарыць; мусіць казакі падпалілі. Вайна! А рускія раней пусцілі прапаганду быццам немцы будуць языкі адрэзваць, вочы выкалупваць, а бабам цыцкі абцінаць. Уцякаць трэба. А ў нас каня не было. Былі яшчэ ў мяне брат і сястра. Мы да дзядзькі, каб нас узяў, упрасіліся. Конь яго зайшоў за Нараўку, у Кіркуты, і пад горку стаў. То дзядзька за нашы сундукі і ў ямы ад картофляў выкінуў. Як хочаце, то ідзіце, сказаў. Да Альхоўкі на выган дабраліся — няма стральца, што раней там быў. А людзі гоняць каравы, авечкі, коні ў Расію. А мы — няма чым ехаць! Разлажылі агонь і сядзімо. Пасядзелі, бачым — двох конных праз выган едзе.

— Немцы! — крычаць. Пабялелі ўсе, пацер пачалі гаварыць. А былі гэта аўстрыйцы.

— Вас, казакі найн? — ці казакаў няма, пытаюцца; баяліся казакаў. Ехалі на вялікіх конях без хвастоў. Калісь то толькі коньмі ўсё вазілі. Коні бельгійскія для артылерыі мелі; як улезуць у тарфіну то ано вё! і вё! Прайшоўся адзін па вазах, авёс загадаў даваць; пабачыў авёс і даў нашым коням. Былі мы з дзядзькам, без сундукоў.

— Раўс, цурык нах хаўзэ! Матка, фатэр, раўс! — загадаў.

І мы вярнуліся. А дома — ані ўзяць, ані ўцяць: ні хлеба, ні бульбы. Была ў нас печ руская і рошчына пакінутая. Пайшлі мы з мамаю, узялі цэбрык на кій, прынеслі тую рошчыну і на бляхі, і ў печ. Аўстрыйцы той хлеб вынялі і бляхі на траме паклалі. І так той хлеб мы жавалі. Аўстрыйцы яго не елі.

А тату загналі аж да Пінска, акопы капаць. І цэлы час гаварылі — зараз будзе плата, але яе не было. А тата хацеў тыя грошы дадому прынесці, але ў канцы страціў на гэта надзею. І дамовіўся з адным уцякаць. Глядзяць — яма для бульбы. Залезлі туды і сядзяць. А есці няма чаго і агню нават, каб пагрэцца, няма як разлажыць. То яны крыху бульбы з поля і ў яму, і там яе грызлі сырую. Прамерзлі: бацька прастудзіўся і памёр заўчасна — у 1923 годзе — 52 гады яму было. Акурат на Макавеяў хавалі, на новых могілках, якія ў дваццаць другім залажылі, праваслаўныя. Старыя былі і рускія, і польскія. Была там царква, старая, дзеравяная, але згарэла яна. Калісь труну льняным палатном выкладвалі і абівалі. У царкве на берагах труны свечкі стаўлялі. А стораж, а быў ім тады стары Шадуя, не загасіў нанач тых свечак і адна свечка дагарэла да льнянага. І згарэла царква разам з пакойнікам, толькі званіца асталася ды і тую разабралі. Будаваліся. Пілаў не было. Шнурам значылі сасонку і сякерамі абцёсвалі бакі. Трэскі на апал ішлі. Потым свярдзёлкам без цягі брус вярцелі: трэба было напіхаць і круціць. Металёвых гваздоў не было, выраблялі з драўніны і такімі дзеравянымі гваздамі шчыты збівалі. Свярдзёлкам вярцелі і долатам дзяўблі і забівалі забіўкі. Тата дзве хаты купіў у Бярначчыне. Зямлі мы не мелі, толькі гарод. Была дзякава палоска, дзе малачарня цяпер. Рабілі дзякава, а потым, як Польшча настала, то ксяндзы ўзялі дзякава і папова. То мы рабілі ў ксяндзоў. Не было чым плаціць за зямлю, дык брукавалі з братам каля касцёла. Так пры санацыі адраблялі шарварак.

### Вузкакалейка

У першую вайну, пры Вільгельме, працаваў за адробак. Немцы людзей не вывозілі, затое рабілі мы калейку, якую немцы банам называлі. Рвалі пні: падкладвалі кнаты, унтэр-афіцэр свістаў і мы адбягалі, каб дрэва не прываліла. Быў з Мінска Маніла, нешта рабіў і дубчак упаў яму на галаву і забіў. Працавалі ўсе, асабліва тыя, што гаспадарак не мелі. Жыдоў, што купцамі ў крамах былі, таксама на работу выганяў, і старых. Быў адзін такі стары жыд са смаркачом; толькі мухі каля яго ляталі. Давалі жыдам сякеры, каб усё вырубвалі дзе вырывалі пні. Жыды і бахуркі ў яліну палазяць, а немец ідзе і крычыць: Арбайт! Арбайт!, а яны ў другую яліну перабягаюць. Рана да працы то немец ішоў спярэду, а яны далёка ззаду цягнуліся. А як дадому, то наадварот — немец далёка ззаду аставаўся за імі. Рабочых бралі з найбліжэйшых вёсак: мы, з Нараўкі, пад Касы Мост хадзілі. Калейку цягнулі ад Гайнаўкі: шпалы і рэйкі клала рабочая група, а мы зямлю ў вагончыкі, што ўжо па калейцы даязджалі, накідалі. Раз мяне ледзь не задушыла: у машыну ваду налівалі з калодзежа, што каля калейкі. Узяў я за рукаятку, ды так мяне прыціснула, што аж скрунуўся. Тата з братам таксама хадзілі рубаць. Немец вырубваў толькі лепшыя дрэвы: дубы, елкі, сосны; аса аставалася.

### Арэлька

Было ў Нараўцы два масты і рэчка разгаліноўвалася: да млына, дзе збожжа малолі, і ў валюш, дзе сукно валілі. Валюш быў там, дзе цяпер гаспода. Пад мостам глені, што з Белавежы гналі, перапраўляў. У Белавежы збівалі каб дзесяць фасметраў было або восем; і ў Нараўцы таксама — звозілі альшыну з Янова і Скупава. І я глені ганяў: два разы ў Тыкацін хадзіў — праз Сураж, Тапілец, Ванева, Гуру. Гнала многа флісакаў. Тут рабілі дагавор з дзесятнікам з дырэкцыі, а ў Тыкаціне зноў нехта з фірмы прымаў. У Ваневе прыйшоў ксёндз і кажа, што яму стадолу новымі кулікамі перакрыць трэба. Годзімся — мы ўсе гаспадарскія і работу гэтую знаем. Раз-два і пакрылі. А ён кажа:

— Вы за прэндко зробілі, я вам тых пенендзы не дам.

— Добра, — кажам. І даў ён толькі, колькі хацеў. Калі змеркла, пайшлі мы, тую стадолу раскрылі, а кулікі парасклалі і вада іх панесла. То раніцай прыйшоў ён і кажа:

— О Езу, Езу, 77 вяраў ест, але та арэльска, 78-а, найгорша.

То зноў у Гуры дзеўкі раздзяваліся дагала, закрывалі грудзі рукамі, уваходзілі ў ваду і гаварылі:

— Пане орэлю, жуць кавал джэва, то бэндэ Бога просіць, жэбы шчэнсліве зашэдл до дому.

А мы іх пытаемся, чаму яны закрываюць грудзі, а ніжэй не закрываюць. То яны адказваюць:

— Бо тэго, з чым се уродзіла, то се не ўстыдзэ, тылько тэго, цо само выросло.

Пыталі таксама, ці чаго на продаж не маем — плаціці маслам, сырам. Адамюк з Ляўкова забіраў з сабою пілку-аднаручку і ў вадзе адрэзваў канцы што даўжэйшых клёцаў, згандлёўваючы іх купцам з Тапільца, а тыя цягнулі іх у кусты ў старую раку. Ахвотных на такі гандаль не бракавала, бо з дрэвам у прынарвянскіх вёсках было тугавата. А можна было так рабіць таму, што на румёне, жэрдцы, якою збівалі клёцы, высякалася колькасць клёцаў, якую гэты румён звязваў а нідзе не запісвалася іх даўжыня.

Будка на гленях была нашым жыллём. Мелі з сабою невад, якім рыбу лавілі. Есці на гленях варылі, і начавалі, і сушыліся. Не было дня, каб у вадзе чалавек не памачыўся. Як усё добра выходзіла, то за два тыдні заганялі дрэва з Нараўкі ў Тыкацін, а як не, то і вошы за каркам завядуцца.

З Тыкаціна ў Беласток вярталіся, помню, поездам, а ў Беластоку наймалі фурманку. Фурман па пяць злотаў ад аднаго хацеў. То мы кажам, што за пяць злотаў то можна два літры гарэлкі купіць. І ідзем пяшком. Вязе гандляр гарэлку. Купілі мы, выпілі. Потым яшчэ папраўляліся, пакуль усіх грошай не папрапівалі. Дайшлі пяшком да Плянтаў, ноч. Просімся на начлег. А тут субота перад Вялікаднем, падлога памыта, але прынялі і мы на той падлозе пераначавалі.

### Міжваеннае жыццё-быццё

Старой рэчкі пры маёй памяці ўжо не было; гаварылі людзі, што пракопвалі яе нейкія кацапы. Я помню, яшчэ на „кулку", каля пастарунка, вада ішла, яма за мостам, дзе цяпер „гаспода", 15 метраў была. А як мост парвала, то тую яму за дзве гадзіны занясло. Галошы пазакачвалі і па вадзе хадзілі. Гаварылі: Святыя ходзяць! Як будавалі мост, то я з свае „дзялкі" 35 фураў камення завёз. Каня пазычаў, а потым адрабляў я шарварак за яго. Брук клаў: ад касцёла да рэчкі і далей. Даўней касцёла не было; каплічка драўляная стаяла. Старыя звязвалі чобаты дратвай, закідалі на плечы і ішлі басанож, але не брукам. Праз раку праходзілі, абувалі чобаты, а як выходзілі з каплічкі, то зноў чобаты здымалі. Казалі: 50 гадоў у адных чобатах прахадзіў! Потым касцёл драўляны паставілі. Пры царкве, як я яшчэ быў пацаном, рыштаванні стаялі: Казалі, што паставілі яе ў 1908 годзе. Заложана была царква на Міколу, а драўляная, што каля старых могілак стаяла — на Яна.

У войску не служыў; прызыўная камісія ў Белавежы была. Скіравалі ў 1922 годзе ў Седльцы, а там адных прымалі, а другіх не, бо замнога было. Пасля на два тыдні мелі браць, але таксама не ўзялі. І так асталіся. Старэйшы брат каля бруку рабіў: жыдам на падворках клаў. І частку дзялкі ксёндзавай, што раней дзякава была, абраблялі. Коней наймалі. Потым трэба было за ўсё плаціць, то плацілі адробкам. Свае зямлі мы не мелі, атрымалі толькі, як рэформа рольна была: паўгектара зямлі і паўгектара лонкі. Пры санацыі ў лесе час ад часу падзарабляў, а як саветы прыйшлі, то сталым рабочым стаў. У 1939 годзе пайшоў на чыгунку. На работу хадзіў пяшком. Зімою ідзеш, ідзеш і не ведаеш, дзе дарога, бо равы пазадувала снегам; акурат вайна з Фінляндыяй была. Я быў маляром і печнікам, працаваў разам з Лапінскім. На станцы вадакачка была, з ракі ваду цягнулі. Былі там матросы, нагавіцы сушылі, што ў снезе памачылі. Нагавіцы тыя не мелі распорках, толькі полы расшпіляліся. Пад той вадакачкай вагон стаяў. А мароз — шрубы белыя. Хтось сказаў:

— Красить надо!

— Не будзе трымацца на марозе, — кажу я.

— Ничего, краси!

— Надо покост, — кажу.

Далі мне літр у шкляной банцы. Застыўшы, не развядзеш з фарбаю. Я паставіў яго на печку, а ён — трах! Я хапіў за той літр, а ён і разліўся па падлозе. Я спалохаўся, а матросы ў кальсонах на мароз. Я ўжо не красіў але папамыў, пакуль не пазмываў. Саветы ў пушчы замчыска агледзелі, што на гліне было зроблена і адтуль каменне бралі на дарогу з Гайнаўкі да Свінарэяў. Кожны мусіў два метры камення надзерці і накласці. Я тады бруку не клаў; клаў дзесятнік Мурын.

### Акупацыя

Як прыйшоў Гітлер, у лесе рабілі, каб дроў загатовіць. На варту ў Свінарэях таксама хадзілі. Прыйшлі ўласаўцы, быў там Космін, папа сын. Раз я часаў воўну, прыходзіць Космін і кліча: — Хадзі на партызан! А яны ў 122-м крыёўку мелі. І чэх адзін з намі быў. Кажа той чэх: Як будут стралятi, то будем лягаті. Пайшлі. Уласаўцы з кулямётам па трыбе ідуць. Зайшлі, а там пень, прызба, лісце ў зямлянцы, каровяча галава, а іх няма, кінулі.

Немцы білі тых, што ў саветаў служылі. Лапінскага забілі, і майго брата, 1906 года нараджэння, таксама забілі, бо пры саветах зборшчыкам быў. Нашы людзі прадавалі адзін другога. Плачуць бабы перад немцам, а ён вымае картачку і кажа:

— Пані уме чытаць? Назвіско — комуніста. Нам даё вядомосці і мы забіямы.

На жыдоў зрабілі аблаву; у чатыры гадзіны раніцы абнялі цэлу Нараўку. Усіх мужчын забралі, пад касцёлам паклалі. Выбралі шасцёх ці сямёх здаровых, далі ім шпадлі і пагналі за Заблочыну роў капаць каля хваіны. Выкапалі роў, а немцы з кулямёта. А тыя, што пад касцёлам ляжаць, нічога не знаюць. Прыходзяць па іх: Aufstehen! Забралі мужчын усіх і пагналі туды. Ішоў калека, упаў, немец прыйшоў, бах і ўсё. Каторысь не хацеў ісці, то пры дарозе, на Саланевічавым закапалі. Капаў потым Саланевіч яму на бульбу і жыда выкапаў. Быў адзін такі, што лёд рубаў і купаўся зімою. Ён ішоў апошнім. То немец яго так штыком ударыў, што аж кроў свіснула. Ім рабін сказаў, каб не біцца, не ўцякаць, бо так ад Бога заслужылі. Я тады належаў да стражы пажарнай, наша шопа стаяла там, дзе цяпер сталоўка. Сюды жанчын і старых прыгналі. Прыйшоў самаход і забраў. Каторае крычыць, то дубчаком і спакой. Казалі, што ў Ружаны павезлі. Там тры жыдоўкі сказалі немцам, што золата прынясуць і яны вярнуліся ў Нараўку. Людзі даказалі зараз немцам і іх расстралялі. Пад восень гэта было.

### Машчэнне вуліц

Пасля вайны брук клаў. Заязджаю „Сімсонам" на Прачыстую; кажуць: таксама брукар, хадзі, чаго чакаеш. Было нас дванаццаць брукароў, каля царквы клалі. Дождж, снег. Яны ўзялі торбы і абедаюць. А я з Грышам Пракапчуком яшчэ лаву шыкавалі. Прыйшоў драгомістр і нас на работу ў фірме забраў. Снегу мала, сані скрыпелі, а мы ўзялі паўлітра і паехалі. Фірма называлася Камунікацыя публічных дарог у Гайнаўцы. Праца была сезонная. Клаў брук у едностцы, у Парыеве, Дубічах-Царкоўных, Тафілаўцах, Палічнай, Грабаўцы, Рутцы. Падлашчык і Грыша Бароўскі са мною рабілі; у Тафілаўцах рабіў сам. Даязджалі пэкаэсам. У Рутцы на мастку рабіў; там лес і рэчачка з лесу. Ішлі бабы на хрэсьбіны; кажуць:

— Мы спімо, а вы ўжэ робітэ! Коб вы показалі, дэ Петя Панфілюк жывэ.

Там бручку для кароў садзілі і ў яму, як бульбу, клалі. Каробкі саламяныя плялі. Адна, Люба называлася, то дзве каробкі за дзень рабіла.

Брукаваў таксама Ляўкова, Слабодку, Лешукі, Семяноўку, Баб'ю-Гару, Масева адно і другое, Альхоўку, Гушчавіну, Пасекі, Капітаншчыну, Янова, Стачок, Скупава і ў Нараўцы каля помнікаў. Маю вуліцу я сам палажыў. Дарогі ў Ляўкова і Семяноўку рабіла другая фірма, з Бельска. Нядаўна з Баб'яй-Гары адзін яшчэ мне кажа: О! Ляжыць той брук, што вы памятку зрабілі. У Ляўкове гліна ў Бандарукоў была. Прыватнік там цагельню меў, не заплаціў ім. Мне трэба было тысячу цэглаў. І яны прывезлі, па пяцьсот на фуры. Клаў я раз брук у Нараўцы, Януш Юрэвіч мне памагаў. Прыйшоў дадому на абед, здрамнуўся. Схапіўся на работу ісці. Устаю, бачу, дым паклубаваў. Касцёл згарэў. Прыхаджане шукалі на папялішчы чашы і попелу ад дывана, што раней прыдбалі, але не знайшлі. Казалі, што ксёндз меў нямецкую гаспосю, ізаляцыю падрабіў і так касцёл згарэў. Паставілі потым касцёл мураваны. Уляды не пазвалялі ставіць званіцы, але Тамара неяк іх упрасіла і пазволілі.

Калісь, як яшчэ махорку самі садзілі і сушылі, курыў. Яшчэ куфэрак ёсць, што ў дне дзіркі, каб рэзаць і сыпалася. Аднойчы на Яна ідзем, а я пакашліваю, бо як адзін табак змяніць другім, то кашаль. То я, як прыйшоў дахаты і сказаў, што не куру, дык кінуў і з таго часу ўжо не куру. Кашу яшчэ рукамі; вось атавы кусок скасіў і сушак наклаў. На двухколку гумовую накладу, шнурком зверху звяжу і паехаў! *Довуд асабісты* вось маю, выстаўлены 30 лістапада 1963 года, дакладна ў шэсцьдзесят гадоў пасля нараджэння: 30.11.1903.

Запісаў
**Аляксандр Вярбіцкі**

# Цуд над Семяноўскім возерам

Над Семяноўскім вадасховішчам хлопцы сустрэлі цуда. Кажуць, *мусі* русалка гэта была, бо як жа іначай назавеш такую істоту — надзвычай прыгожую бландзінку з доўгімі да пояса распушчанымі валасамі, бледную на твары ды зеленавокую?.. Па чым тутэйшыя следапыты **Юзаф З.** і **Мікалай Б.** распазналі, што тая дзеўка — незямная? Мала такіх можа паявіцца тут, у такім цяпер людным месцы? Магла ж тая паненка быць хоць бы турысткай, калі не з Гайнаўкі ці Беластока, то нават і з нейкай Варшавы. Тутэйшых дзевак, маладзіц, цётак і бабуль усе як адну могуць нам пералічыць Зютак З. і Колік Б. з заплюшчанымі вачыма — няма такое ні ў Нараўчанскай, ні Міхалоўскай гміне. Думалі ўжо нават, што гэта была якая ўцякачка з-пад Ваўкавыска ці Свіслачы. Ну, бо калі б гэта была турыстка, то мела б з сабою нейкі багаж, так ці не, — рукзак, спальны мяшок, а то нават і сваю палатку, а тая красуня была ў адной сукенцы, і то слабенькай, выцвілай, пашытай па старой модзе. Да таго і зусім босая. І яшчэ ж, што адразу звочыў Коля, не мела станіка, і хоць кавалеру, нават старому, не ўсмак такія грудачкі, што тырчэлі ў паненкі ў тым месцы, дзе павінны быць *цыцкі*, на густ Міколы, *як гарбузэ*, то і так закіпела ў ім кроў, бо зблізку такое пекнае дзеўкі даўно не бачыў.

А яна падышла да вогнішча, на якім Коля з Зюткам пяклі сала на палачках, нахілілася да Колі і, хаваючы за яго плечуком бледны твар ад полымя, прашаптала хлопцу ў вуха, быццам ветрык павеяў:

— Мікола Б., гэта ж я цябэ так шукала...

— Ігы, мане, кажэш?! А скуоль ты сама ўзялосэ? Пэўно, хочэш, каб я табе тое-сёе паказаў? Дзе ў нас страшыт у Марушцы або на Падкапуоўскум? Ты, пэўно, якая з газэты, чы навуковэц? Па-пашаму, чую, уміеэш. Седай, бары палачку з салом. Ты, як цябэ там звації, пэўно Баршчэўского прафэсара віедаеш? Можэ, вуон цябэ прыслаў?..

— Ага, даўно віедаю. Ужэ з трыццэць ліет будзе, як па падрэчках уначэ яго вадзіла. Думала, звэду ды ўтаплю ў Нарві, забэру ў свуой сьвіет, бо файны хлопэц, а вашых мужыкоў лёгко ў багну звэсьці, закамзытаці, зацалаваці насьмэрць і ўтапіці. Ано на такого пальчыком кіўні. Іду, пальчыком клічу Баршчэўского, сьпэваю ему тоненько, а вуон ідзе, подбегом за мною скачэ па купах, і ніяк ні топіццэ, а як да мане дарваўсэ, пачаў складно вэршыком гаварыці, то зарэз і заранка выйшла, піеўні засьпівалі, і мніе прыйшлосэ расою рассыпаццэ... Ты, Мікола, так мане ні цісьні, я хачу з табою, як з чалавіеком пагаварыць, як чалавіекаві прыглядзеццэ, бо вэльмі ж ты добры і харошы...

— Ну, як табіе там будзе, Русалка чы Расінка, чы ешчэ інакш... — расчуліўся Коля, прыхінуў дзеўку да сябе.

— Як ты да его, як да чалавіека, то і вуон да цябэ, як да бабы: сьцягвай майткі! — хруснуў скварачкай Зютак.

— Уой, я ж такое ні нашу! — сарамліва стуліла каленкі Русалка. — І з сукенкаю астаруожно, мніе ее ў двацьцэць сёмум дала Прузына з Таніцы. Як я посьлей пакажусэ людзям?!

Адсопся Зютак, выцер тлустыя пальцы ў траву. З вялікага пластмасавага бутля ўліў у гранёную шклянку „Раял".

— Слухай, панна, калі ты хочэш, каб з табою як з дамаю абыходзілісэ, то можно і так, чаму ж не. Але ж як так можно посьлей расплывацьцэ расою! Не, вана баба як трэбо, Зютэк, — пацаў там і сям Русалку, — і скура як наша, ано мякенька, і костачкі, і цыцку крыху мае. Ты, малая, што ты мне пляцеш пра двацацьць сёмы чы екі, і што Баршчэўскі за табою ў чобатах па купах бегаў па багніе! Ну, хай ты русалка, не дамо табіе змарнавацца! Я цябэ спраўджу: еш сало! Калі ты е баба, то з'есі его бэз шкоды, а калі ні баба — чорт з табою, расплывайсэ чым хочэш!

Запішчала скварка на палачцы, зашыпеў тлушч на траве. Выцягнула кволыя пальчыкі светлая прыгажуня, узяла імі дымячую трэсачку...

— Ну, еш! — Зютак аж нос выцер рукавом, як у дзяцінстве, у прадчуванні чагосьці невядомага і страшнага. — Ано рот ні папэчы. Сало добрэ, сьвэжанінка з Мэдзьведзёў.

Русалка аж вочы заплюшчыла, невядома, з ляку ці цікавасці. Сухая, амаль празрыстая скварачка знікла ў яе ліловых вуснах...

Мікола з Зюткам расказвалі пасля, што пілі і елі і яшчэ хацелі аж да світанку. Дзяўчына, казалі, не была мусіць ніякая русалка, бо, калі б была ёю, не ела б жа саланіны, але ж, калі знікла, усё ж пакінула сваю пацертую сукенку. Тое адзенне мне хлопцы паказалі — выпалавелую анучку ў дробныя кветачкі. Хлопцы прысягаюць, што дзяўчына была, росту недзе з 165 сантыметраў, як і я, сярэдняга, значыць, даўгавалосая, хударлявая, і зусім матэрыяльная, бо хоць Колік з Зюткам былі выпіўшы, ведаюць, што мелі ў руках.

— Не быў я ж такі п'яны, каб ні памэтаць! — злуецца Зютак на маю заўвагу пра „Раял", які мі сёння мяне частуюць. — Я ж сам ее *асабісьце* цалаваў! Во тут мане ўкусіла, кале вуха! Напраўду, майток ні мела, а якая ж баба бэз трусоў ходзіт?! Станіка екая і ні носіт, але каб бэз іх?! Забі мане, усё добрэ памэтаю! Выпілі ж толькі тры паўлітры на траіх, і то за ўсю ноч. Колькі ж гэто е! Ну, калі б вана была русалка, то чы піла б сьпірт? Алє, ваны — духі, і *сьпірытус* — тожэ дух, і вана посьле ж чы вадою, чы расою расплыласэ, ано рукі ў мане мокры засталісэ. А калі вана — баба, то чы зранку гола пабіегла б? Тут бабы ў ваколіцы нармальные, навэць калі екая п'е, то гола ні бегае па лесі!

Ніхто ж, апрача Міколы Б. і Юзафа З. не бачыў згаданай істоты — даўгавалосай прыгажуні, тым больш распранутай дагала і босай, пасля іхняй прыгоды за ўрочышчам Марушка.

Я мяркую, што ўсё ж гэта была русалка. Толькі навошта было ёй есці саланіну ды каштаваць „Раял"! Пра шкоднасць алкаголю, у прыватнасці „Раялу", пісалі і гаварылі шмат, вядома, але адкуль гэта ведаць „вадзяной панне"? Пэўна, праз тую заразу і страціла бедная Русалка падарунак таніцкай Прузыны. А як жа цяпер пакажацца людзям наша, можа быць, апошняя беларуская русалка ў туманныя ночы над Семяноўскі возерам?

Калі здарыцца Вам сустрэць тую істоту, дайце, беднай, якое адзенне — міні-спаднічку, джынсы ці нават і фуфайку (толькі не частуйце яе гарэлкай, нават калі будзе вельмі прасіць!). Файная ж дзеўка, і па-нашаму гаворыць. Можа, з якім нашым хлопцам застанецца, расой не расплывецца?..

**Міра Лукша**

# ВІТАЛІЙ

Віталій абудзіўся позна. Адчыніў акно. Ішоў дождж, у пакой нахлынула свежае паветра. Немалады ўжо мужчына запусціў руку ў пасівелыя валасы.

— Як мне добра, — падумаў. — Сёння выхадны дзень і не трэба нідзе спяшацца. Цэлы дзень магу сядзець у мяккім куце і ленавацца.

Прагляну́ў газету, уключыў радыё, сарваў учарашнюю картачку з календара і падумаў: „25-ае красавіка! То ж сёння мой дзень нараджэння! Я зусім забыў. Прыйдуць госці, а я не падрыхтаваўся!"

Глянуў на пакой. — Так, у мяне заўсёды непарадак. — Пабег у кухню. — І тут непарадак, а і халадзільнік, як часта гэта бывае, пусты, толькі нейкія бляшанкі з рыбай. Трэба нешта купіць. Толькі, каб магазіны не пазачыняліі!

Заўсёды Віталій абедаў у завадскім харчблоку то і пакупак не рабіў. Хутка апрануўся, узяў парасон, збег па лесвіцы і выйшаў на мокры, пусты тратуар. Найбліжэйшы магазін зачынены. Трэба ісці далей. Ідучы, Віталій развіажаў:

— Год таму назад таксама спраўляў сваё свята. Не ішоў дождж, прыгожа свяціла сонейка і нават усе запрошаныя госці прыйшлі. Аднак гэта не быў шчаслівы дзень. Вечарам, калі госці выйшлі, Ірэна сказала, што адыходзіць. Дзеці дарослыя, а яна свабодная ўжо. Нічога больш. Нічога. Гэта ўжо год, а ў сэрцы яшчэ жаль, не магу зразумець чаму адышла, чаму?!

Вось і магазін.

— Што ж вам трэба? — прыемны жаночы голас абудзіў яго.

— Мне... эээ... нейкае мяса... Сам добра не ведаю што. У мяне сёння будуць госці, а я не падрыхтаваўся, нават не прадумаў, што трэба купіць. Выбачайце маю нерашучасць.

— Гэта звычайная сустрэча ці нейкае свята? — запытала жанчына.

— Дзень нараджэння.

— Тады ўсяго добрага. Колькі чалавек збярэцца?

— Думаю... 7—9.

— Прапаную нешта з паўфабрыкатаў: смачныя смажаныя кураняты, катлеты або студзіну, можа гуляш?

— Адно куранё і 10 катлетаў... можа 500 грамаў каўбасы і той кавалак шынкі, а і студзіны крыху.

— Вам напэўна трэба нешта з гароднінi і садавіны?

— Так, толькі не ведаю што. Выбачайце, заўсёды жонка рабіла пакупкі.

— Разумею, вам трэба падысці ў другі аддзел. Бачу, што трэба вам памагчы. Пайду з вамі. Галя, замяні мяне, — сказала сяброўцы.

Бачучы ягоную нерашучасць, сама клала ў кошык бульбу, зялёны гарошак у бляшанцы, памідоры з цыбуляй, салёныя агуркі і бананы, і яблыкі, і зяленіва. Потым у кошык пайшлі марынаваныя грыбы, нейкі кекс.

— Выбірайце торцік — яны на вітрыне халадзільніка.

Віталій выбраў шакаладны торцік, узяў яшчэ партвейн. Расплаціўшыся, падзякаваў за дапамогу. Шчаслівы, лёгкі душой і... з пустой кішэнню выйшаў з магазіна. Дождж яшчэ ішоў, але цяпер іншыя лёгкія думкі запаланілі яго галаву. Ужо не тое, што было год назад.

— Такое мілае абслугоўванне. То ж гэтай жанчыне не трэба было мне памагаць, аднак памагла, — падумаў. — Вельмі мілая і... прыгожая, можа заўтра... О, ужо кватэра!? Яшчэ толькі прыбраць пакоі.

Хтосьці ціха сядзеў на лесвіцы, паднёсся.

— Ірэна!? — выгукнуў Віталій. І радасць, і здзіўленне было ў ягоным голасе.

**Анна Даманская**

# Радзіма — Родзіна

### Частка XXXIII

Цытую тыя выказванні бацькі, якія можна было б назваць дыгрэсіяй у яго разважаннях. Раблю гэта таму, што з'яўляюцца яны ўступам да бацькавага скептыцызму адносна магчымасці ўзмацнення беларускасці ў БССР і ўстанаўлення якіх-небудзь форм аўтаномнага беларускага жыцця ў Польшчы.

„Ты тут усё нажымаеш, каб я гаварыў пра тое, чы калі-лень Беларусь будзе меці сваю незалежну гасударственносць у Савецау і чы чагось беларусы даб'юцца ў Польшчы. Мне то здаецца, што ў Беларусі можэ быці яшчэ горш, чым ест цепер, а ў Польшчы то беларусы нічого ні палучат, дай Бог, каб утрымалі тое, што ест. Але, бачыш, я то ўсё гэто гавару сваім мужыцкім простым розумом, а як яно будзе напраўду, то ніхто толком нічого ні знае.

Ну, чаму я ні веру ў наш народ? Я зрэштаю ні веру і ў Расею і скажу чаму ні веру, або можэ лепш сказаці калі я страціў гэту веру. Ты знаеш, гэто было хіба дзесь так у 1916 року. Мы тады цэлы час памаленьку адступалі. Праўда, немцы нас ні пагналі, так як Гітлер папер Сталіна у 1941 року, але ўсё ж такі гналі нас цэлы час. Ну і гэто здарыласё ў Беларусі, ні знаю дакладно дзе, можэ дзесь пад Пружанамі або пад Слонімом? Немец выпусціў дальнебойны снарад і ўпліатаваў у станцыю. Часць асколкаў папала ў цыстэрну, катора стаяла на пуцях жалезнае дарогі. Много асколкоў то было дробных, а адзін то правальіў такую дзірку, што ў яе магла б улезці чалавечая галава. І от з тае цыстэрны праз прабоіны хлынула якаясь жыдкосць. І што сталасё? Хтось хваціў у рот і дзікім голасам закрычаў: „Братцы, гнатый спірт". Ты знаеш, я бачыў ні раз як народ грабіт разбіты вагоны. Але такого то ні бачыў ніколі. Тысячы людзей, а былі гэто салдаты і бежанцы, кінулі свой дабыток, свае аружые і кінуліся да гэтае цыстэрны. То выглядало так, як часом мухі і чэрві кідаюцца на падліну. Умомант абляпілі цыстэрну з усіх бакоў. Былі яны пад цыстэрнаю і пілі гэту жыдкосць з землі, сядзелі на цыстэрні і, панятно, атакавалі яе з бакоў. Падстаўлялі пад цыстэрну раты, бралі ў баклажкі, у гладышкі, у бутэлькі, у ведра, а навет у чаравікі і чобаты. І стаяў такі енк, такіе стогны, такая мацершчына, што я такого чагось ні чуў ніколі і ні бачыў. Калі ўжэ з гэтае вялікае прабоіны жыдкасць перастала бухаці, ну бо уровень у цыстэрні панізіўся, то адзін залез па галаве людзей і пачаў чэрпаці кацялком і наліваці ў пасуду людзям, а потым то ўсадзіў у дзірку голаў і пачаў хлебтаці. Я ні знаю, чы его хтось турзануў уніз, чы ногі его паслізнулісе на галовах, але галавою ён зачапіўсе за прабоіну і яна яму разрэзала горла. І ты думаеш людзі перасталі штурмаваць цыстэрну? Барані Божэ! Сцягнулі таго з разрэзаным горлам пад ногі і ў дзірку палез другі. Уся гэта катавасія цягнуласе кала гадзіны і толькі тады прыляцеў патруль на конях з ахвіцэрамі і тыя пачалі бізунамі лупіці і разганяці. І знаеш, што было далей? Ну, можэ праз якіе пятнаццаць мінут тые, хто напіўсе, пачалі страшно рыгаць і харчаць. Валіла ім з горла пена і яны сінелі, рвалі на грудзях рубашкі і зрывалі з ног пасталы. Было ясно ўжэ, што ў цыстэрне была якаясь труцізна. Але ты думаеш, што тые, хто набраў яе ў пасуду чы ў чобаты, павылівалі яе? Пачці што ніхто гэтаго ні зрабіў. Далей пілі і гарлапанілі ва ўсю. Колькі тых п'яніц сканало, то я ні знаю, бо прыперлі санітары і пачалі іх адносіць кудысь на насілках. Я то думаю, што паздыхалі ўсе, хоць можэ быці, што знашлосе якоесь для іх лекарство. Чаму я табе аб гэтым расказваю? Таму, што якраз там я аканчацельно не толькі перастаў верыці, што Расія выграе вайну, але дайшоў да выводу, што рускіе і беларусы зробят яшчэ не раз много страшных дзелоў. Такіх страшных, што затрасецца свет. Я, панятно, тады яшчэ ні знаў, што хутко будзе акцябрска рэвалюцыя, катора прынясе много нішчасцяў, але так прадчуваў, што будзе ў Расеі много бедаў. Ты знаеш, што да сегодня бачу тую цыстэрну і тую дзікую таўпу, катора яе атакавала і тых п'яных людзей, беларускіх мужыкоў і рускіх салдат, каторы ляжалі кругом, як бы пасля якое Барадзінскае бітвы. А от чаму гэта ўсё адносіцца да нашае, як мы кажэм, малое чы вялікае родзіны, то я табе ахвотно раскажу заўтрэ".

**Алесь Барскі**

# З народных песень

*Вырашыў я даслаць яшчэ ноты і словы прыпевак з ваколіц Полацка, Лепеля, Глыбокага і Празарок. Людзі перадавалі ў песнях тое, што ім набалела на душы, што прыгнятала. У гэтых частушках праяўляецца сум па ўсім, што было сілаю адабранае ў народа. У словах мяшаюцца розныя акцэнты жыцця і розныя словы. На Беларусь сталі тады, у гады сталінскіх рэпрэсій, прыязджаць расейцы, якіх, мабыць, таксама выгналі з родных мясцін.*

Маю мілку Дунькай звалі,
Рукадзельніцай была.
Ў рашато кароў даіла,
Тапаром авец стрыгла.

А сягоння вечарынка,
Жэніцца мая пчалінка.
Жэніцца, вянчаецца,
Любоў мая канчаецца.

Ў маёй мілкі на магілцы
Залатыя нумара.
Хто праходзіць, то чытаець,
Што з любові памерла.

А сягоння вечарынка,
Скучная, печальная.
Мая мілачка надзела
Плацціцо вянчальнае.

Запалілася лучына,
Гары вугаль залаты.
Чым багаты дурачына,
Лепей бедны развіты.

Із калодца вада льёцца,
Бяры, мілачка, на чай.
Як здадуць мяне ў салдаты,
Ты другіх не прыручай.

Із калодца вада льёцца,
Сербіянка моецца.
Разрашыце, сербіянка,
З вамі пазнакоміцца.

Слава Богу, панямногу
Стаў я к водке прывыкаць.
Паўбутэлькі стала мала.
Стаў бутэльку выпіваць.

Гавараць, платкі — разлука.
Я нарочна два дала.
Не платкі нас разлучылі,
А чужая старана.

*(працяг будзе)*

**брат Браніслаў Кавэцкі**




# ДВУХЛІТАРНАЯ КРЫЖАВАНКА



**Гарызантальна:** 1. ганебны знак, 3. несправядлівасць, 5. машына для апрацоўкі матэрыялу, 7. прыток Волгі, 9. гербавая птушка, 10. від спартыўнага спаборніцтва, 11. суцэльны круг, 12. іспанскі сюррэаліст, 14. сталіца Турцыі, 16. частка нагі, 17. горад у Данбасе.

**Вертыкальна:** 1. псеўданім, 2. збудаванне для пераправы цераз раку, 3. адзін рух нагой, 4. права на выкананне, 6. раздзел мовазнаўства, які вывучае ўласныя імёны, 8. месца пахавання, 9. шэраг аднолькавых арак, 11. косць, 13. абласны горад між Волгай і Донам, 14. жаночае імя, 15. парада, павучанне.

**Ш**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на віраванку з 40 н-ра:** маркіз, канкан, капрал, ракета, пазыка, калена, ятаган, Юкатан, трасца, снарад, раніца.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

<u>**Год у гаспадарцы**</u>

# Лістапад

Закончыць асеннія працы. Калі яшчэ няма марозу, араць пад ярыну (гэта намнога лепш, чым вясной). Запасціся на зіму апалам. Адвезці буракі на пункт скупкі. Забяспечыць сельскагаспадарчыя машыны ад знішчэння і ржавення.

Забяспечыць на зіму хлявы і куратнікі (пабяліць вапнаю). Перабраць фрукты і незакапцаваную яшчэ бульбу, буракі. Купіць цікавыя кніжкі з галіны сельскай гаспадаркі і зрабіць падпіску на „Ніву”, а таксама на сельскагаспадарчыя часопісы.

*(Я.Ц.)*

# ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне, будзь так добры, разгадай мой сон. Сніцца мне, быццам іду я па знаёмай гарадской вуліцы, поўнай людзей. І заходзім мы ў дом, які я добра ведаю. Быццам будзем мы хаваць маю маму, якая ўжо не жыве. Дом быў новы, мураваны, двухпавярховы. Я іду на другі паверх па сходах. У той час я думала, як можа выглядаць мая мама. Уваходжу ў пакой, станаўлюся на калені, а навокал шмат людзей. Я глянула на маму, а яна такая прыгожая, ляжыць жывая ў труне. Пасля яна ўстала, а нейкая жанчына падала ёй новыя белыя туфлі, а забрала старыя, але таксама белыя. Яна іх выцірае, а я бачу, што ў адным туфлі адарваная падэшва. Маці кажа: „Можа ў вас ёсць нейкая сукенка і ніжняя кашуля, бо ў мяне яны кароткія”. Быццам другая жанчына дала ёй белую кашулю і зялёную сукенку. А яна ўсё гэта надзела. Тыя жанчыны гавораць, што маці будзе рабіць сабе смерць. Яна падышла да мяне і пачала развітвацца. Абняла мяне, прытуліла і я адчула, што яна выламала мне зуб. Я ўзялася рукою за шчаку, але гэта мне не перашкаджала і я абняла маму, ды пачала плакаць, жаліцца, чаму яна нам робіць такі сорам. Тады маці адышла, а я падумала, што не змагу глядзець на яе смерць. Па сходах я выйшла з гэтага дома.

Астроне, я ведаю: гэта штосьці дрэннае. Усё ж такі чакаю адказу.

**Твая чытачка Н.Р.**

Шаноўная Н.Р.! Сон сапраўды нядобры. Пагражае табе небяспека. З нейкім падарожжам тут можа быць звязана трагедыя. Пра гэта сведчыць тое, што маці твая ляжала жывая ў труне, але рыхтавала сабе смерць і змяняла вопратку ды абутак. А найбольш непрыемнае ў гэтым сне тое, што, прытуліўшыся да маці, ты выламала сабе зуб. Смерць кагосьці блізкага, але не кроўнага (крыві не было) не абміне цябе.

**АСТРОН**

# Андрэй

Андрэю пайшоў другі годзік, калі памерла яго мама Ліда ад сухотаў. Бацька піў і не цікавіўся сынам. Выхаваннем малога занялася яго бабуля, маці бацькі. Бацька працаваў у лесе дрывасекам. Калі набліжалася гадавіна смерці маці, бацька, п’яны, пайшоў зрэзваць дрэвы. Калі нахіляў зрэзваную хвойку, нейкім цудам яго закінула ў той бок, куды падала дрэва. Хвойка ўпала так хутка, што не змог уцячы, і прыдушыла яго. Калі паднялі хвойку і выцягнулі з-пад яе Пятра, кроў лілася з яго як вада з вядра. Не памагло нават тое, што абвязалі яго ватоўкай. Непрытомнага Пятра завезлі фурманкай у мястэчка да лекара, а той, паглядзеўшы на Пятра, толькі развёў рукамі:

— Ён ужо не жыве: уся кроў выцякла, нічога не асталося.

Пасля пахавання бацькі Андрэй стаў круглым сіратою. Бабуля плакала і наракала на свой лёс:

— Божа мой, Божа! Чаго гэта я дачакалася — паўтарала. — Быў адзін сыночак: падпора ў жыцці будзе, думала, а ён п’яніцам стаў і праз гарэлку на той свет пайшоў. Нявестка ад сухотаў памерла. Малая сірата асталася на маёй галаве. Як жыць, што рабіць!?

Андрэй плакаў разам з ёю.

Гаспадарку памагалі абрабляць сыны бабулінага брата. Іх жонкі добра адносіліся да малога Андрэя. Калі хлопцу споўнілася пяць гадоў, памерла бабуля. Хлопец хадзіў жыць то да аднаго дзядзькі, то да другога. У школе вучыўся от так сабе. Не быў найгоршы, але і да найлепшых не належаў. Пасля заканчэння пачатковай школы працаваў на гаспадарках сваіх дзядзькоў. Вучыцца не хацеў. Калі адыходзіў у армію, плакаў як малое дзіця; баяўся, што прападзе. Усе, што праводзілі яго на вакзал, таксама плакалі: шкадавалі заўчасна асірацелага хлопца.

У арміі не загінуў, вярнуўся. На гаспадарцы працаваць не захацеў. Дзядзькі, каб не скрыўдзіць пляменніка, заплацілі яму за тую часць, на каторай калісь гаспадарылі яго бацькі. Андрэй выехаў у горад, закончыў вадзіцельскія курсы і стаў на працу шафёрам. Пазнаёміўся з Гражынай і ажаніўся. Жылі з сабою згодна. Гражына была добрай краўчыхай. Шмат грошай зарабляла на працы і дома. Многія жанчыны прыносілі матэрыял, каб пашыць сабе вопратку. Пяць гадоў не было ў іх дзяцей. Абое жылі ашчадна, збіраючы грошы на пабудову дома. Калі Гражына зацяжарыла, купілі пляц. Куплялі будаўнічыя матэрыялы. Нарадзіўся сын, назвалі яго Міраславам. Хрэсьбіны былі скромныя: усяго дванаццаць гасцей запрасілі. Пасля хрэсьбін пачалі ставіць дом. Андрэй наняў двох рабочых, сумленных майстроў. Сам таксама ім дапамагаў пасля працы. Будаўнікі былі добрасумленныя: адразу сказалі колькі возьмуць за сваю работу і працавалі ад раніцы да змяркання.

Андрэй узяў водпуск, каб хутчэй закончыць будову. Гражына пасля мацярынскага водпуску зноў стала на працу, а пасля работы спяшала дамоў рыхтаваць абед мужу і будаўнікам. Пасля, да позняй ночы шыла, каб зарабіць больш грошай на адстройку дома. Дзіцём занялася бабуля.

Дом ставілі двухпавярховы, мураваны. Калі сталі крыць дах, Андрэй неспадзявана ўпаў з рыштаванняў. Устаць ужо не змог. Вызвалі хуткую, якая адвязла яго ў бальніцу. Лекары пасля медыцынскага агляду сказалі, што не будзе ўжо хадзіць. Рукі і галава ўладныя, а ногі не. Калі хворы даведаўся аб гэтым, вельмі плакаў; перапрашаў жонку, што завязаў ёй свет. Гражына прасіла, каб не пераймаўся ёю. Яна зарабляе добра, дзіця ёсць каму даглядзець, дом неяк давядзе да парадку. Найгорш будзе яму, на ўсё жыццё прыкаванаму да ложка. Спачувалі яму таксама сваякі.

Пасля месяца Андрэя выпісалі з бальніцы. Гражыне прыбыло абавязкаў: трэба было апекавацца бяссільным мужам як немаўляткам, не раз вывозіла яго на шпацыр. І трэба было шмат грошай на адстройку дома. Андрэй атрымаў пастаянную інвалідную пенсію і, дзякуючы працавітасці і ашчаднасці жонкі, атрымаўся акуратны дом. Сыну споўнілася тры гады як перайшлі жыць у новы дом. Памерла бабуля і малога Мірка аддалі ў прадшколле. Калі Гражына з сынам выходзілі з дому, Андрэй аставаўся сам. Глядзеў тады ў столь і блакітныя вочы напаўняліся слязамі. Наракаў на свой лёс, які так яго пакрыўдзіў: рана асірацеў, а цяпер акалечыўся на цэлае жыццё.

Пасля дзесяцігадовых мукаў Андрэй памёр.

Аўрора






## Лістапад

Ты таксама чароўны,
Хаця для іншых адмоўны.
Прывыклі на цябе наракаць
І рэдка праслаўляць.
У цябе многа прыгажосці,
Не відаць лютасці, злосці,
Як некаторыя папракаюць
І дарэмна наракаюць.
Ты раптоўна з дрэў лісце не скінуў
І снегам, марозам іх не прыкінуў,
А па чарзе і ў парадку,
Нясмела вітаючы зіму-матку,
Бываеш ты цёплы, лагодны —
Для мяне дасканалы і родны.
Ты месяц, а як жа, і важны,
Для людзей і прыроды разважны,
Восені залатой ты падлік,
Даеш множны і добры свой лік.
Да зімы нас прыгатаўляеш
І дух бадзёрасці, любоў паднімаеш,
Каб мы раслі, давалі свой плён,
А Богу і Радзіме — нізкі паклон.
Месяц лістапад —
Табою вельмі, вельмі рад;
Даеш дажджы як і пагоду
Каб кончыць сялянскую работу,
Каб шчыра нам ужо адпачыць
І ўспамінамі цёпла даражыць.
Наша праца дала плады
Ці хто стары, ці малады.
І лістапад пакуль не паддаецца
І песня птушак зімовых ужо льецца,
Бо снежань скора прыйдзе:
Цікава толькі ў якім відзе.
Пакуль пагода, людзі ў працы:
Хто каля дроў, хто чысціць пляцы
І ўсё кругом і наўкола.
А я вечарамі праходжу школу —
Як шанаваць бацьку, маці,
Любіць, ніколі не злаваці.
Мароз і холад не навасць,
Бо больш прайшло як палова
Цудоўнай восені пагоднай,
Для Мікалая вельмі роднай.
І ён стараецца яе хваліць,
З прыродай, часам добра жыць.

**Мікалай Панфілюк**




**“Niwa”**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: “ORTHDRUK”, Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**
Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**
Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
Старшыня Праграмнай рады — Валянцін Сельвясюк

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1996 r. upływa 20 listopada 1995 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał wynosi 9,10 zł (91 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,30 zł (13 000 st. zł), a kwartalnie — 16,90 złotych (169 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

## Спеўнік Нупрэя Супонькі

### Каб мелі мы златыя горы...

Каб мелі мы златыя горы
І рэкі, поўныя віна,
Суседцы нашай вельмі скора
Мы аддалі б усё спаўна.

Нас папракаюць справядліва,
Што небагата мы жывём.
І мы рашуча ды імкліва
Распрадаём свой родны дом.

Каб гаспадарцы бесталковай
Раптоўна не прыйшоў канец,
З суседкай блізкай мы гатовы
Пайсці хоць сёння пад вянец.

У новы дзень глядзім з апаскай,
Бо шчасця так і не знайшлі,
Прывыклі жыць з чужое ласкі
І ўсё цярпець, як бабылі...

Каб мелі мы златыя горы
І рэкі, поўныя віна,
Суседка наша вельмі скора
Усім валодала б адна.

(„*Вожык*”)

## НІЎКА



Мал. А. Каршакевіча

## Смех у санаторыі
### або даўціпы з альбома Андрэя Гаўрылюка

Абвінавачаны звяртаецца да суддзі:
— Бяру Бога за сведку, што я невінаваты.
— Гэта немагчыма, запозна, — гаворыць суддзя, — спісак сведкаў ужо закрыты.

* * *

Спатыкаюцца два сябры:
— Я цяпер працую аптавіком; ну, ведаеш: вугаль, кокс...
— А я — дырэктарам турмы; ну, ведаеш: хлеб, вада...

* * *

Муж, спадзеючыся гасцей, пераглядае свой кнігазбор і некаторыя кніжкі хавае ў шафу.
— Навошта гэта робіш, — пытае жонка, — баішся, што ўкрадуць?
— Баюся, што будзем мусілі іх аддаць.

* * *

Рэжысёр звяртаецца да аўтара чарговай серыі многасерыйнага фільма:
— Спадзяюся, што ў гэтым сцэнарыі больш глыбіні, чымсьці ў папярэднім.
— Намнога больш; дзеянне адбываецца ў шахце.

* * *

— Які лекар не можа жаніцца са сваёй пацыенткай?
— Лекар ветэрынарыі.

* * *

— Калі чалавек дома без галавы?
— Калі выглядае праз вакно.

* * *

— Што гэта такое: зялёнае, ляжыць пад дрэвам і храпе?
— Гаёвы пасля зарплаты.

* * *

— Што робіць дурань, калі нехта хоча пазычыць у яго мільён злотаў?
— Пазычае.

* * *

— Што робіць дзяўчына ў дзевятым месяцы?
— Ідзе ў школу, бо гэта верасень.

* * *

— Што бяруць спярша ў рукі, а пасля ў рот?
— Папяросу.

*Сцяпан Абух*

## З запісаў нацыяналіста

### 19. Алеф-Нуль

Зона-бізнес „Алеф-Нуль” раскруцілі Фрыкі Жмурка і Шмыкі Цюлька. Прабываючы доўгі час у Замбара, яны задумалі, што можна туды пастаўляць бульбу з Зоны, якая ў Замбара лічыцца традыцыйнай ежай. Да бульбы ў Замбара, якую там пякуць, дадаецца яшчэ лімонны сок. І тут узнікла перад прадпрыемцамі адна нечаканая акалічнасць — лімон у Зоне не расце. Жмурка і Цюлька аднак не палі духам — яны зышліся з вялікім знаўцам зонаўскай рэальнасці ды будучым аўтарам эканамічнага цуду Зоны Арыстоцелем Ванько. Ванько прыдумаў адну геніяльную ідэю — лімонны сок можна танна атрымліваць з лімоннай трускалкі, радзімай якой менавіта з'яўляецца Зона. Як сягоння памятаецца мне рэкламны стэнд, зроблены пад замбарскага спажыўца, на якім Фрыкі Жмурка, Арыстоцель Ванько і Шмыкі Цюлька абдымаюцца ды каштуюць лімонны сок з зонаўскай трускалкі, а жоўта-чырвоны заклік паведамляе: **Зоўн строўберы-с дэ-бэст** (самы лепшы з зонаўскай трускалкі). Не вядома, ці замбарскія ўрадавыя колы таксама скаштавалі гэты зонаўскі прадукт, даючы для „Алефа-Нуль” кантракт на пастаўку бульбы і лімоннай трускалкі, але Зона фактычна перакапала замбарцаў, што печаную бульбу лепш запраўляць зонаўскай лімоннай трускалкай, чымсьці замбарскім лімонным лімонам. Кан'юнктура накрунулася. Фрыкі Жмурка і Шмыкі Цюлька апрануліся ў шыкоўныя касцюмы і ўселіся выгодна ў такія ж машыны, а працоўны клас Зоны канаў ад лімоннай кіслаты ў затхлых вагонах чыгуначных саставаў „Алефа-Нуль”. Зона пачала спазнаваць эканамічную крыважэрнасць. Першым спахапіўся Арыстоцель Ванько і, мабыць, было ў гэтым жаданне апраўдацца, напісаў адзін са сваіх знакамітых твораў „Фартуна з крыві і курэўства”, але свету ўбачыць ён не здолеў. Пра кнігу першымі даведаліся Фрыкі Жмурка і Шмыкі Цюлька, якія і запрапанавалі аўтару ўнесці ў яе некаторыя змяненні, у выніку якіх да чытача трапіў франтаваты твор пра бажкоў, русалкі, німфы, трускалкі...

Зонаўская прымаўка сцвярджае, што ў любым прыдпрыемстве першы мільён палюбоўнікаў трэба ўкрасці. Фрыкі Жмурка і Шмыкі Цюлька аказаліся быць разумнейшымі за гэту мудрасць. Яны свой першасны капітал набылі цалкам легальна. Жывучы доўгі час у Замбара, абодва часта запускаліся ў тамашні буш, дзе дакладна спазналі мясцовую племянную іерархію, іерархію вартасцяў гэтай іерархіі, норавы бушменаў, іхнія праблемы і жыццёвыя памкненні. І што выявілася? Маладыя бушмены ўсё часцей адыходзілі ад традыцыі сваіх бацькоў, не вывучалі карэннай мовы Замбара замбаран, размаўляючы ўжо выключна на трэйшан інгліш, адмаўляліся спажываць чалавечыну ды ўцякалі з бушу ў горад, дзе найчасцей рабілі кар'еру букмахера. Старыя замбарскія правадыры роспачна глядзелі, як канчаецца іхні свет. Адзначу тут, што людаедства ў замбарскіх бушменаў мае надзвычай памяркоўны характар — усяго на Новы год паводле рэфармаванага календара Замбара.

Першым, хто на вышэйшым узроўні якаснасці ахапіў гэту сітуацыю, быў Шмыкі Цюлька.

— Верагодна ёсць тут для нас гешэфт.

Слепаваты Фрыкі Жмурка толькі хітра прыжмурыў свае вочы, але таксама скеміў. Яны пачалі арганізоўваць сходы бушменскага старшынства, на якія з усёй належнай для начальства велічнасцю прыбывалі галовы важнейшых і больш уплывовых сем'яў.

— Ваш боль нашым болем, — слязліва даказваў Шмыкі Цюлька, — але ёсць тут адно выйсце.

Была ноч. Правадыры расселіся наўкол вогнішча. Іхнія, бы з каменя выкаваныя воблікі, ажыўляліся толькі агнявымі рэфлексамі.

— Мы ведаем адно месца, — цягнуў думку Фрыкі Жмурка, — дзе можна рэстаўрыраваць вам Замбара і даць спакойную старасць. Дзе будуць вашы вігвамы, мова, традыцыя і спажыванне чалавечыны на Новы год. А імя ягонае Зона.

— Мы пабудуем там традыцыйныя вігвамы з усімі дасягненнямі цывілізацыі, але справа будзе каштоўнай, — дакончыў Шмыкі.

Бушменскае начальства ў абсалютнай цішыні перажоўвала прапанову. Стала да таго ціха, што Фрыку Жмурку здалося быццам чуе змяінае шыпенне. Ён ужо быў упэўнены, што гэта шыпіць змяя ў кішэні бушмена, калі нечакана прапанова была прынята. Бушменскі кашалёк размазоліўся і зонаўскім прадпрыемцам даручылася ўся яго каштоўнасць.

Фрыкі Жмурка і Шмыкі Цюлька не гублялі свой час. Яны арганізавалі „Алеф-Нуль” у Зоне і завалілі Замбара бульбай ды лімоннай трускалкай. Ад замбарцаў бралі дыяменты, слановую косць, леапардавыя скуры, змяіны яд ды іншую сыравіну. „Алеф-Нуль” меў толькі адзін крытычны момант у сваёй дзейнасці. Замбарскія газеты, якіх Фрыкі і Шмыкі ўважліва чыталі, паведамілі пра рух бушменскай арміі ў напрамку мяжы з Зонай. На думку рэпарцёра, рух гэты меў нейкае дачыненне да сакрэтных інвестыцый бушменаў у Зоне. Праз тыдзень аднак ваяўнічы настрой сярод замбарскіх бушменаў суцішыўся. На маю думку, Фрыкі Жмурка і Шмыкі Цюлька звярнулі праз пасрэдніцтва Бэнк-оф-Замбара той капітал, які пазычылі ў бушменскага начальства, чым і даказалі сваю чэснасць у міжнародным бізнесе.

Другі момант меў больш стратэгічнае, чымсьці крытычнае для „Алефа-Нуль” значэнне. Супаў ён у часе з гніллю бульбяных гоняў у Зоне, але кантракт ёсць кантракт — замбарцы з'елі і такую бульбу, пасля чаго „Алеф-Нуль” распусціўся, а прадпрыемцы зніклі з публічнага жыцця Зоны. Ходзяць чуткі, што Шмыкі Цюлька быццам ангажаваўся ў забаўляльны сектар, адчыняючы недзе ў Любагорску публічны дом. Пра Фрыкі Жмурку няма верагодных вестак. Вядома толькі, што ягонай жыццёвай марай было ўяўнае прадпрыемства новай генерацыі, якое хацеў назваць „Гамер-Імеджын”...

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Я — вучаніца восьмага класа. Сёлета, калі ў верасні пачаліся заняткі, усе ў школе раптам заўважылі, што я надта вырасла і, як кажуць, набрала цела. Праўда, што я амаль усё лета правяла ў бабулі на вёсцы. Ела што хацела і спала колькі хацела. Чытала, хадзіла ў ягады і грыбы — адным словам, адпачывала.

І вось цяпер кажуць, што я стала вельмі добра выглядаць. Мне здаецца, што я такая, як і была, але нават сама заўважыла, што хлопцы да мяне пачалі чапляцца. А асабліва адзін.

Як толькі пачынаецца перапынак у школе (ён у паралельным класе), дык так і круціцца ён каля мяне. То штурхне, то ганяе мяне па калідоры, але ўсё — каб быць блізка. Спачатку я думала, што ён проста так выдурняецца, як усе хлопцы. Хлопцы ж, вядома, любяць пацягнуць дзяўчыну за касу, ці скубнуць за спаднічку. Але аднойчы ён падышоў да мяне і сказаў: „Люблю я цябе, файная ты дзяўчына!”

Ну, сказаў, дык сказаў. Я надалей не звяртала на яго большай, чым на іншых, увагі. Ну што з таго, што я файная дзяўчына. Мама таксама казала. Усе ведаюць, што я дзяўчына ў парадку. Але ён, відаць, думаў інакш. І пачаў даслоўна праследаваць мяне ў школе. Ідзе з хлопцамі па калідоры, а я перад імі і раптам чую, што я вар'ятка, або птушыны мозг. Я расказала пра ўсё маме, а яна мне і кажа: „Хлопцы ў вашым узросце могуць так рабіць не тады, калі дзяўчына ім не падабаецца, а якраз наадварот: калі яна не дае ім спакою”.

Ну, і ўяві сабе, Сэрцайка, што бадай мая мама мела рацыю. Была ў нас школьная дыскатэка. Усе весела бавіліся, танцавалі. Я танцавала з усімі. Нават і не спадзявалася, што гэты хлопец запросіць мяне. А ён падыходзіць і, такі міленькі, далікатна запрашае мяне. Ну, вядома, я згадзілася. Як з усімі, дык з усімі. Танцуем, і думаю я, што здарылася: не той хлапец. Ніводнага брыдкага слова, адна далікатнасць.

Назаўтра ў школе паводзіў сябе ізноў як ідыёт. Ізноў чапляўся да мяне, падсмейваўся. Калі я стаяла каля вакна, падышоў і ўшчыпнуў мяне. На другі дзень укусіў мяне ў руку. Я ізноў расказала пра ўсё маме. А мая мама толькі ўздыхнула ды кажа: „Ой, дзеці вы, дзеці...”

Цяпер, дарагое Сэрцайка, я не ведаю, што і думаць. Як паводзіць сябе? Не магу ж я кідацца яму ў абдымкі, калі ён абзывае мяне, ці мае жаданне ўшчыпнуць. Можа гэта з яго боку і пачуццё, але я яшчэ не мела ніводнага хлопца і не ўяўляю, як усё гэта адбываецца. Прынамсі я думала, што гэта выглядае інакш. Здавалася мне, што калі чалавек закаханы, дык перш за ўсё рабіў бы той асобе, якую кахае, толькі добрае і быў бы да яе надта сімпатычны. Я не разумею зменных настрояў гэтага хлопца і вельмі мне карціць, каб выказаць яму сваю крыўду.

Мае сяброўкі ўжо даўным-даўно ходзяць з хлопцамі і нават многія ўжо маюць з імі палавыя зносіны. А я яшчэ зусім зялёная. Парай, што рабіць?

**Дарота**

Дарота! Перш за ўсё не спяшацца! Твой ліст мяне здзівіў па адной прычыне: што сяброўкі твае ўжо „даўным-даўно” ходзяць з хлопцамі і нават маюць з імі палавыя зносіны. Ты лічыш сябе „зялёнай”, а мне здаецца, што ты якраз нармальная. Гэта яны занадта рана пачалі дарослае жыццё і менавіта ў іх можа наступіць хуткае расчараванне. На ўсё ёсць свой час — прыйдзе пара і на каханне.

Залёты гэтага хлопца да цябе вельмі тыповыя для вашага ўзросту. Пры хлопцах, яго сябрах, ён цябе лае, абзывае брыдкімі словамі, бо не хоча прызнацца перад імі, што ты яму падабаешся. Калі ж вы разам танцавалі — ён быў такім, якім быць павінен. Тое, што ён хоча ўшчыпнуць цябе, ці ўкусіць за руку, таксама сведчыць аб тым, што ты яму неабыякавая, бо хоча дакрануцца да цябе, быць з табой. Гэта так званыя „цялячыя залёты”. З гэтага часамі пачынаецца каханне.

**СЭРЦАЙКА**